незалежная газета

№ 28 (722) 27 ліпеня 2011 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

**Ці праўда, што пенсіі будуць выдаваць прадуктамі, а не грашыма?**

Старонка 3



**Расійскі Ё-мабіль ствараюць беларусы**

Старонка 15

КоронА

**Багатыя Беларусі: Тапузідзіс**

Старонка 8



Эмі Уайнхаўс: соўл, наркотыкі, смерць у 27

Старонка 11.

Спорт

## БАТЭ адзін за ўсіх

Кожны год са спадзяваннем чакаеш футбольных еўракубкаў. Ёсць вера, што зараз нашы клубы пакажуць клас. І амаль што раз потым даводзіцца сутыкацца з жорсткай рэчаіснасцю.

Адзінай светлай плямай у гэтым шэрагу быў леташні сезон. «Дняпро» і мінскае «Дынама» прайшлі тры раўнды Лігі Еўропы. БАТЭ ж гуляў у групавым этапе гэтага самага турніра.

Гэты поспех дазволіў беларусам падняцца на рэкордны 21-ы радок у рэйтынгу УЕФА. Ніжэй за нас апынуліся такія футбольныя краіны, як Польшча, Чэхія, Сербія, Харватыя. Нібыта гэта павінна было станоўча адбіцца на беларускіх клубах, на справе ж выгаду змог атрымаць адзін БАТЭ.

Працяг на старонцы 6.

# 60 найвышэйшых чыноўнікаў: хто яны?



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Два гады таму «Наша Ніва» прааналізавала склад лукашэнкаўскай эліты. Сёння мы робім новы замер. Чыноўнікі старэюць разам з Лукашэнкам — старонка 9.**





## Нарвежскага тэрарыста могуць пасадзіць у «самую гуманную» турму ў свеце

Старонка 2.

Гісторыя

## Ідэалагічныя дыверсіі і дыверсанты

Як падманвалі цэнзуру ў часы «развітага сацыялізму». Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

...Гутарка ў рэдакцыі ішла пра школьныя праблемы. І ў сувязі з гэтым нехта згадаў «Настаўніцкую газету». «Ды гэта не газета, — сказаў Васіль Вітка, — а ідэалагічная дыверсія». І помню рогат, бо словы «ідэалагічная дыверсія» ў дачыненні да «правільнай» газеты ў 1970-я гучалі камічна. Ідэалагічная дыверсія — радыё «Свабода» ці кніжачка ў валізе беларуса з Падляшша (знешнія дыверсанты), кніжачка ў сумцы хлопца, які пабываў у Маскве, або надрукаваная на машынцы гутарка Міколы Ермаловіча (унутраныя дыверсанты)...

На барацьбу з дыверсіямі і дыверсантамі былі пушчаныя вялікія сілы: партыйны апарат (ад райкамаў да ЦК КПСС), КДБ з яго памежнымі войскамі і палітычным вышукам, Галоўліт (так называлася цэнзура) і іх памочнікі. Стукачы былі ў кожнай рэдакцыі, у кожнай студэнцкай групе, армейскім узводзе, на кожным караблі, у кожнай экадрыллі... Задача ўсіх гэтых службаў была ў тым, каб схаваць ад савецкага чалавека непажаданую інфармацыю, пэўныя ідэі, а таксама імёны аўтараў гэтых ідэй. Задача была і ў тым, каб абясшкодзіць грамадзян, якія распаўсюджваюць непажаданыя ідэі, спрабуюць папулярызаваць забароненыя імёны. **Працяг на старонцы 10.**

# Разня на востраве Утоя

Трагедыя Нарвегіі прымусіла шмат каго згадаць трагедыю Мінска 11 красавіка. Толькі што ў Осла ўсё адбылося, нібы ў запаволенай здымцы. Тэрарыст метадычна забіваў юнакоў паўтары гадзіны на востраве. Кожны ўявіў сябе на месцы нарвежскіх юнакоў-лейбарыстаў.

У панядзелак 150 тысяч жыхароў краіны выйшлі на вуліцы Осла, каб ушанаваць памяць ахвяр падвойнага тэракту. Многія з іх прыехалі з іншых гарадоў краіны. Людзі трымалі ў руках кветкі, пераважна ружы. А 12-й краіна замерла ў хвіліне маўчання ў памяць пра ахвяр крывавай пятніцы.

Для Нарвегіі гэта самае страшнае здарэнне пасля Другой сусветнай вайны.

22 ліпеня ў Осла побач з будынкам урада прагрымеў магутны выбух, які забраў жыцці 8 чалавек. Пазней на востраве Утоя ў летніку моладзі кіроўнай Працоўнай партыі апрануты ў паліцэйскую форму мужчына застрэліў 76 чалавек, большасць з якіх былі падлеткі. Гэта больш, чым гіне нарвежцаў ад наўмысных забойстваў у сярэднім за год.

Адзіны ахоўнік на востраве быў бяззбройны — нарвежскія паліцыянты звычайна зброі не носяць.

Тэракт здзейсніў 32-гадовы нарвежац Андэрс Брэйвік. У судзе ён патлумачыў, што такім чынам хацеў звярнуць увагу на «мусульманскую праблему» Еўропы.

### «Нармальны чалавек такога не зрабіў бы»

Брэйвік доўга рыхтаваўся да задуманага. Ён быў удзельнікам стралковага клуба, што дазволіла яму легальна набыць зброю. Трэніраваўся ён на камп'ютарных гульнях. За некалькі гадзін да тэракту ён выклаў у інтэрнэт свой 1500-старонкавы маніфест і апублікаваў фотаздымкі, на якіх быў апрануты ў форму, меў пры сабе зброю і нават узнагароды.

Андэрсу было 12 гадоў, калі ягоныя бацькі развяліся. Ягоны бацька, былы дыпламат, пасля разводу з'ехаў у Францыю. Адносіны сын з бацькам не падтрымлівалі. У кароткім інтэрв'ю Брэйвік-старэйшы заявіў, што «нармальны чалавек такога не зрабіў бы».

Найбліжэйшыя восем тыдняў Брэйвік правядзе ў адзіночцы, да яго будуць пускаць толькі адвакатаў. Суд яшчэ вырашыць, ці будзе працэс адкрытым. Паводле нарвежскага закона, тэрарысту пагражае да 30 год турмы.

### «Мы станем яшчэ больш адкрытымі»

Тэракт у Мінску таксама здзейсніў тэрарыст-адзіночка. Кіраўніцтва Беларусі выкарыстала тэракт для «ўмацавання дысцыпліны». Гэта зачапіла крылом апазіцыю. Зайшла гаворка і пра шкоду дэмакратыі.

Зусім іначай дзейнічалі нарвежскія кіраўнікі. Адразу пасля трагедыі прэм'ер-міністр Нарвегіі Енс Столтэнберг заявіў, што тэрарыст хацеў бы, каб Нарвегія рушыла ў бок дыктатуры, але краіна стане яшчэ больш адкрытай і дэмакратычнай. У тым, што прэм'ер не кідаў словы на вецер, пераканаўся вядомы расійскі блогер Рустэм Адагамаў (яго імя ў Жывым часопісе — drugoi — НН). Ягоная дачка жыве ў Нарвегіі. Ён наведаў жалобную акцыю ў Осла. «Дзіўным чынам людзі арганізоўваліся самі і рабілі гэта абсалютна арганічна — так, што было зразумела, што прыйсці на плошчу з кветкамі для іх — гэта самы натуральны і просты спосаб сказаць адно аднаму, што яны разам: «брат з братам, сястра з сястрой» і разам перажывуць сваю бяду», — апісвае падзеі на вуліцах нарвежскай сталіцы блогер. Па яго словах, яго па журналісцкім пасведчанні прапусцілі на сцэну, з якой пазней прамаўлялі прэм'ер-міністр і прынц Хокан. «Гэта было зусім дзіўна, вядома, таму што тут чакалі прыезду каралеўскай сям'і, прэм'ер-міністра, вядомых палітыкаў, і ў агароджаным пэрыметры ўжо хадзілі людзі ў касцюмах і з рацыямі. У наступныя дзве гадзіны я цалкам бесперашкодна хадзіў тут, быў на адлегласці выцягнутай рукі ад Столтэнберга і крон-прынца — мяне ні разу ніхто не адцягнуў, не спыніў, не праверыў змесціва маіх кішэняў і сумкі». На здымках Адагамава з вуліц Осла — мноства мусульман з кветкамі ў руках.

І ўсё ж тэракт стане прычынай для пераацэнкі стандартаў бяспекі для многіх краін. Калі псіху ў рукі трапляе аўтамат, ён руйнуе жыццё соцень людзей. А не дай Бог атамную бомбу... А пакуль бомба існуе, яна таксама можа трапіць да вар'ята.

**Сямён Печанко**



Востраў Утоя.

**Краіна-рай**

Нарвегія па праве называецца адной з самых бяспечных краін у свеце (прынамсі, была такой да падзей 22 ліпеня 2011 г.).

Колькасць забойстваў у пераліку на 100 тысяч жыхароў тут складае каля 0,7. Для параўнання — у Беларусі гэты паказчык складае каля 5,1. Пры гэтым Беларусь застаецца апошняй краінай у Еўропе, дзе захоўваецца смяротнае пакаранне, а турмы адны з самых перанаселеных. Дарэчы, Нарвегія была жывым пацверджаннем думкі, што наяўнасць смяротнага пакарання не ўплывае на колькасць цяжкіх злачынстваў.

**У Беларусі Брэйвік вывучаў ідэю падрыву АЭС**

Брэйвік шмат падарожнічаў. За апошнія гады ён, у прыватнасці, наведаў Літву, Латвію, Эстонію, Польшчу і Беларусь. Брэйвік прыбыў у «Мінск-2» рэйсам Вена--Мінск 4 сакавіка з турыстычнай мэтай і пакінуў краіну рэйсам Мінск--Вена 11 сакавіка 2005 года. У сваім маніфесце Беларусь ён апісаў як пацярпелую ад Чарнобыля: «Большасць людзей былі апраменены, як просты вынік таго, што ў Савецкім Саюзе не хацелі эвакуяваць людзей. Акрамя таго, дыктатура ў Беларусі наўмысна працягвае распаўсюджваць сельскагаспадарчую прадукцыю з забруджаных тэрыторый», — лічыў ён.

Ён выказвае меркаванне, што аварыя АЭС магла б падарваць асновы «Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Еўропы» — так ён называў Еўрасаюз — гэтаксама як Чарнобыль падарваў СССР.

Ідэальны ж палітычны лад паводле тэрарыста — «кіраваная дэмакратыя» расійскага ўзору. Брэйвік не хавае свайго захаплення Пуціным як кіраўніком.




**Колькасць забойстваў на 100 000 жыхароў у год**

## Сцісла

• **Гэты тыдзень будзе спёка.** На Беларусь зноў наплывуць гарачыя паветраныя масы з поўдня Расіі, і тэмпература стане на 4–6 градусаў вышэйшая за норму. Да чацвярга паветра ўначы будзе праграваецца да 20°С, а днём — да 32°С (ва ўсходніх рэгіёнах). На захадзе будзе ўсяго 25°С. Пад выходныя прыйдзе свежы вецер з Балтыкі.

• **Партыя Зялёных заклікала павысіць цэны на бензін удвая.** Малпуючы еўрапейскіх калег, экалагісты крытыкуюць акцыі «Стоп-бензін». Яны звяртаюцца да беларускага ўрада, які «не павінен заставацца пасіўным назіральнікам, а рашуча садзейнічаць ломцы архаічнай свядомасці аўтааматараў шляхам неадкладнага павышэння цаны на бензін. Як мінімум удвая».

• **«Белнафтахім» гатовы прадаць Гомельскі хімічны завод.** Такая прапанова ад імя старшыні «Белнафтахіма» Ігара Жыліна зробленая расійскаму холдынгу па вытворчасці ўгнаенняў «Фосагро». Гомельскі завод — адзіны ў Беларусі вытворца фосфарных угнаенняў.

• **Юнакі патрабуюць змякчыць рэжым утрымання Дашкевічу і Ліхавіду.** У Дэпартамент выканання пакарання 26 чэрвеня было перададзена 12 заяваў з патрабаваннем змякчэння рэжыму ўтрымання палітвязняў. Людзі самаарганізаваліся праз сацыяльную сетку Facebook. Удзельнікі сабраліся каля Дэпартамента, падпісалі заявы і па чарзе аднеслі іх на рэгістрацыю.

• **Скончыўся прызыў.** Брамы ваенкаматаў зачыніліся 26 ліпеня. Каля 3000 чалавек папоўняць армейскія шэрагі.

• **МУС будзе адсочваць знаходжанне асуджаных праз GPS-бранзалеты.** Такім чынам ужо адсочваюць дзесяць чалавек. Сістэма электроннага маніторынгу распрацаваная для кантролю за асуджанымі на «хіміях». Яна шырока ўжываецца ў Еўропе.

• **Не забілі: «Экранас» (Літва) — БАТЭ (Барысаў) — 0:0.** У гэтым розыгрышы Лігі чэмпіёнаў БАТЭ не шукае простых шляхоў. Колькі крыві барысаўцам папілі паўночнаірландцы з «Лінфілда». Тое самае паўтарылася з «Экранасам». Пераможца вызначыцца ў Барысаве 2 жніўня.

**СГ**

## Самае чытанае на nn.by за 20—26 ліпеня

1 Мінскія рэзідэнцыі Лукашэнкі

2 Нарвегія: фанатык забіў 76 чалавек

3 Серада: пратэсты выдыхаюцца

4 Лукашэнкаўцы блакавалі праспект Незалежнасці, каб сарваць пратэст аўтамабілістаў

5 Вазьмі Бігмак у аўтазак!

6 Фотафакт: Супрацоўнік Генпракуратуры разглядае мікрааўтобус без нумароў

7 «Падыходжу да ДАІшніка і кажу: там аўтобусы без нумароў ездзяць»

8 Фотафакт. «Жить хоро-шо с Лукашенко»

9 Лукашэнка — губернатару Косінцу: «Боўтаешся апошні год»

10 Глухая мінчанка прызнаная найпрыгажэйшай у Еўропе

# Нарвежскага тэрарыста могуць пасадзіць у «самую гуманную» турму ў свеце



Турму Хальдэн распісаў мастак.

### У камерах турмы «Хальдэн» ёсць DVD-плэеры і халадзільнікі.

Андэрса Брэйвіка, які прызнаўся ў здзяйсненні двайнога тэракта ў краіне, могуць пасадзіць у турму «Хальдэн», магчыма, самую гуманную турму ў свеце.

«Хальдэн» адчынілі 8 красавіка 2010 г., яна каштавала нарвежцам каля $252 млн.

Знаходзіцца непадалёк ад Осла, разлічана на 252 чалавекі. У кожнага зняволенага ў гэтай турме асобная камера з ваннай, якая выглядае як нумар у трохзоркавым гатэлі. У пакоях ёсць тэлевізары з плякатым экранам і міні-халадзільнікі. У некаторых зняволеных ёсць DVD-прайгравальнікі і абмежаваны доступ у інтэрнэт.

Дызайнеры адмовіліся ад бетонных сценаў, зрабіўшы драўляную ашалёўку з фрэскамі знакамітага нарвежскага мастака Дока Лундгрэна.

Палова ахоўнікаў турмы — жанчыны. Кіраўніцтва мяркуе, што гэта зніжае агрэсію зняволеных. Акрамя таго, яны не носяць з сабой зброю. Нярэдка ахова і зняволеныя разам абедаюць і займаюцца спортам. Існуюць і іншыя забавы — на кухні «Хальдэна» можна браць кулінарныя ўрокі. У турме таксама размешчана музычная студыя, а для спатканняў абсталяваныя адмысловыя катэджы.

**СП**

# Стоп-бензін-2

## Лукашэнкаўцы перакрылі Праспект, каб сарваць пратэсты



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пратэсты прайшлі на прылеглых вуліцах.

У чацвер 21 ліпеня аўтааматары зладзілі акцыю пратэсту з нагоды чарговага падаражэння паліва. «Стоп-бензін — 2» розніўся ад папярэдняй акцыі кардынальным чынам: калі першы раз праспект перакрылі пратэстоўцы, то цяпер, напалоханыя гневам Лукашэнкі, гэта зрабілі міліцыянты.

Да праспекта загадзя сцягнулі аўтобусы з супрацоўнікамі ў цывільным. Незадоўга да пачатку акцыі яго зусім перакрылі для прыватнага транспарту. У выніку сігналы аўто, а таксама песні Цоя, N.R.M. і «Ляпіса Трубяцкога» даносіліся з прылеглых вуліц.

У пэўны момант акцыя перамясцілася на вуліцу Казлова і праспект Машэрава. Пешаходы апладзіравалі пратэстоўцам, хоць дзясяткі супрацоўнікаў у цывільным наваднілі вуліцы.

«Стоп-бензін — 2» запомніўся яшчэ і затрыманнем кіроўцы дарагога спартыўнага Lamborghini Gallardo. Аранжавае аўто цаной каля $400 тысяч з амерыканскімі нумарамі апынулася ў самым цэнтры акцыі.

**Сямён Печанко**



EURORADIO.FM

**Аранжавая Lamborghini Gallardo коштам каля $400 тысяч стала героем пратэстаў.**

## Рэвалюцыянеры перабіраюцца на рынкі

Арганізатары маўклівых пратэстаў шукаюць новыя фарматы.

Аднак пакуль не вельмі паспяхова.

Гэтым разам мадэратары суполкі заклікаюць людзей прыходзіць на цэнтральныя рынкі сваіх гарадоў. «У мэтах бяспекі — не плясканць», — пішуць яны.

Акцыя запланаваная ў абед — а 13 гадзіне. «Мы разумеем, што многія ў гэты час на працы. У выпадку поспеху будзем праводзіць акцыі ў суботы», — прапануюць мадэратары суполкі.

Паведамляецца, што арганізатары вядуць перамовы з прадпрымальнікамі, каб яны падтрымалі акцыю. З ініцыятывай прадпрымальніцкага страйку ў серады выступіў нядаўна адзін з лідараў дробных гандляроў Віктар Гарбачоў.

Акцыі маўклівых пратэстаў пачаліся 1 чэрвеня. Яны ахапілі не толькі Мінск, але і рэгіёны. На акцыю 22 чэрвеня ў сталіцы выйшла некалькі тысяч чалавек, у некаторых абласных цэнтрах было па тысячы.

Тым не менш, пасля рэпрэсій супраць дэманстрантаў (арышты, збіццё), колькасць удзельнікаў пачала зніжацца. Арганізатары шукалі іншыя варыянты акцый, але выйсці на масавасць больш не ўдалося.

У мінулую сераду да Кастрычніцкай плошчы выйшла некалькі соцень чалавек, пры тым, што Плошча ачэпленая не была.

Дарэчы, 27 ліпеня — гэта Дзень узнаўлення беларускай незалежнасці (1990), але ніякага акцэнту на гэтым рабіцца не будзе.

Лідары палітычных партый адзначаць гэтую дату супольнай прэс-канферэнцыяй на сядзібе Руху «За Свабоду».

**Зміцер Панкавец**



TUT.BY



**Супрацоўнік Генпракуратуры Павел Радзівонаў (злева) 20 ліпеня назіраў за выкананнем законнасці на акцыі пратэсту.**

## «Ананімнасць развязвае рукі міліцыі»

Супрацоўнікі ў цывільным, якія хапаюць на вуліцах людзей і цягнуць іх у аўтобусы без нумароў, сталі змрочным сімвалам 2011 года.

Хапаюць працаўнікаў Лукашэнкі, але часта пад раздачу трапляюць і людзі на вуліцах, журналісты. Апошнія звярнуліся з адкрытым лістом у Генпракуратуру, і адказ не прымусіў сябе доўга чакаць. Генпракурор Рыгор Васілевіч выказаўся за тое, каб міліцыянты на акцыях працавалі ў форме. Каб пры затрыманні тлумачылі грамадзянам прычыны сваіх дзеянняў і прадстаўляліся.

Ужо праз дзень пасля заяваў Васілевіча на чарговай серадовай акцыі з'явіліся спецназаўцы ў форме. Таксама на плошчы быў начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства Генпракуратуры Павел Радзівонаў. Журналісты былі сведкамі, як ён уступіў у спрэчку з сілавіком у цывільным, які кіраваў затрыманнямі ўдзельнікаў акцыі.

Аднак калі пачаліся затрыманні ўдзельнікаў, у справу ўключыліся ўсё тыя ж невядомыя ў цывільным. І цягнулі затрыманых у тыя самыя «ананімныя» аўтобусы. На фоне мікраатобусаў без нумароў, дарэчы, быў сфатаграфаваны і Павел Радзівонаў, які акурат назіраў за выкананнем законнасці.

Як мяркуе праваабаронца Валянцін Стэфановіч, ананімнасць развязвае рукі міліцыянтам. З аднаго боку, закон аб міліцыі дазваляе сілавікам працаваць у рамках аператыўна-вышуковай дзейнасці без формы, змяняць нумары службовай тэхнікі або здымаць іх зусім. І пры гэтым неістотна, каго затрымліваюць супрацоўнікі ў цывільным — небяспечных злачынцаў ці ўдзельнікаў мірных акцый: закон не прадугледжвае тут нейкіх выключэнняў.

Праваабаронца акцэнтуе ўвагу на нематываванай жорсткасці міліцыянтаў. «На відэа з акцый відаць, як на мірных дэманстрантаў навальваюцца ззаду па некалькі чалавек, прыдушваюць, заломваюць рукі».

Валянцін Стэфановіч кажа, што ўладам варта-такі ўжыць вопыт еўрапейскіх сілавікоў, на які яны так любяць спасылацца. У той жа Грэцыі ці Германіі паліцыянты маюць індывідуальныя нумары, дзякуючы чаму лёгка расследаваць любое парушэнне імі закону.

**Сямён Печанко**

ЧЫТАЧ СПЫТАЎСЯ

### Ці праўда, што пенсіі будуць выдаваць прадуктамі, а не грашыма?

З такім дзіўным пытаннем звярнулася ў Рэдакцыю «НН» жыхарка Брэста. Яна сказала, што яе сястры ў Пінскім раёне сацыяльная работніца сказала, што прыносіць пенсію грашыма апошні раз, а надалей будзе прыносіць прадукты, якія будуць у рахунак пенсіі выпісваць у краме.

Нараджаюцца такія плёткі, бо народ перастае верыць дзяржаўным СМІ. А за каго ж Вы галасавалі? — спытаўся я ў кабеты. — «За Лукашэнку», — уздыхнула яна.

**Мікола Бугай**

### Саакашвілі просіць еўрапейцаў не аддаваць Беларусь Расіі

Прэзідэнт Грузіі Міхаіл Саакашвілі, выступаючы на міжнароднай канферэнцыі ў Батумі, выказаўся адносна сітуацыі ў Беларусі. «Еўрасаюзу неабходна наладзіць дыялог з Мінскам, каб Беларусь не трапіла ў ізаляцыю і не апынулася ў руках расійскай адміністрацыі», — сказаў Саакашвілі.

Летась Саакашвілі ў інтэрв'ю для БТ асудзіў палітыку Расіі ў дачыненні да Беларусі. Саакашвілі быў адным з нямногіх кіраўнікоў сусветных краін, хто павіншаваў Лукашэнку з перамогай на апошніх выбарах.

**Зміцер Панкавец**

### Без бою: БНФ пакінуў Сядзібу

Новы офіс Партыі будзе на Крапоткіна, 93а.

25 ліпеня Партыя БНФ пакінула памяшканне па адрасе праспект Машэрава, 8. З Сядзібы знялі дзверы і сцяг. У памяшканні таксама распісалі сцены надпісамі «Жыве Беларусь», «Да перамогі», «БНФ не спыніць».

Афіцыйнае высяленне адбылося на наступны дзень. Хутка даведаемся, хто будзе новым уласнікам памяшкання. У ЖРЭА абяцалі, што могуць прыйсці са спецназам. Кіраўніцтва Партыі вырашыла не чакаць.

«Гэтае рашэнне было прынятае пасля шматлікіх унутрыпартыйных дыскусій», — кажа Аляксей Янукевіч.

Эпапея з высяленнем доўжылася ад 1 красавіка. Скаргі разглядаў Мінскі гарадскі гаспадарчы суд, а таксама яго калегія. Цяпер Сядзіба будзе месціцца на Крапоткіна, 93а.

**ЗП**

# Больш за $500 атрымліваюць толькі 6,5% беларусаў

Медыянны беларус зарабляе каля 1,5 мільёна.

Белстат агучыў вынікі папярэдняга даследавання медыяннага заробку ў Беларусі. Раней вылічваўся толькі сярэдні. У чым адрозненне? Сярэдні заробак вылічваецца надзвычай проста — агульная сума заробкаў па ўсёй краіне дзеліцца на колькасць работнікаў. За кошт надзвычай высокіх даходаў у некалькіх тысяч бізнэсоўцаў сярэдні заробак атрымліваецца завышаным у параўнанні з рэчаіснасцю.

Медыянны заробак вылічваецца інакш. Напрыклад, пяць беларусаў зарабляюць 800 тысяч, 900 тысяч, 1 мільён, 1,1 мільёна і 100 мільёнаў рублёў адпаведна. Сярэдні заробак у такой сітуацыі складае 20,76 мільёна, а медыянны — 1 мільён. Гэта заробак чалавека, які знаходзіцца ў сярэдзіне шэрагу заробкаў.

28,7% беларусаў зарабляюць 1–1,5 мільёна. Яшчэ 27,6% чалавек маюць ад 500 тысяч да 1 мільёна рублёў. Такім чынам, медыянны заробак сярэдняга беларуса можна лічыць вышэйшым за 1 мільён рублёў.

Колькасць катастрафічна бедных (менш за 500 тысяч рублёў) параўнальна невялікая — 2,9%. Але і «багатых» няшмат. Усяго 6,5% беларусаў атрымліваецца больш за 3 мільёны рублёў ($500 у эквіваленце). Большасць з іх займаецца фінансавай дзейнасцю, аперацыямі з нерухомасцю і будаўніцтвам.

**Ягор Марціновіч**




**Размеркаванне работнікаў Беларусі па памерах налічанага заробку**




**Інфармацыя пра Польшчу і балтаў за першы квартал, астатнія краіны — май-чэрвень**

# Урад можа ўвесці нарматывы на карыстанне вадой і цяплом

Каб «звышнарматыўнае спажыванне» аплачвалася грамадзянамі па поўным кошце.

Кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Уладзімір Макей растлумачыў пазіцыю дзяржавы ў пытанні ЖКГ. Адказваючы на пытанне аб магчымым павышэнні цэн на паслугі ЖКГ, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта запэўніў, што яно будзе паступовым.

Макей адзначыў, што разглядаецца таксама наступны варыянт: насельніцтва будзе аплачваць па цяперашняй цане толькі нарматыўнае спажыванне ЖКП, а звышнарматыўнае спажыванне — цалкам. «Гэтае пытанне абмяркоўваецца», — сказаў ён. Улады сцвярджаюць, што «ў 2003 годзе насельніцтва аплачвала каля 50% рэальнага кошту жыллёва-камунальных паслуг, а цяпер — толькі 23%». Пра гэта заявіў ізноў Макей.

Аднак калі дапусціць, што беларусы плацяць менш за чацвёртую частку кошту паслуг ЖКГ, то выходзіць, што кошт камуналкі ў краіне павінен перавысіць сумы, якія плацяць палякі ці літоўцы. Між тым наша краіна купляе нафту і газ па цэнах, нашмат ніжэйшых, чым Польшча ці Літва.

Няўжо наша камунальная гаспадарка настолькі неэфектыўная? Ці ў лічбах уладаў усё ж ёсць нейкае лукаўства?

**Сяргей Гезгала**

# Чырвоныя дырэктары сабатуюць прыватызацыю

Дзяржаўны камітэт па маёмасці скардзіцца на праціўнікаў рынку.

Дырэктары прадпрыемстваў і мясцовыя органы ўлады чыняць перашкоды прыватызацыі ў Беларусі, прызнаўся старшыня Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Георгій Кузняцоў.

Кіраўнікі многіх прадпрыемстваў, што ўвайшлі ў план прыватызацыі на 2011–2013 гады, зразумелі, што з прыходам новых уласнікаў могуць пазбавіцца сваіх пасадаў, бо працаваць не ўмеюць. «І цяпер яны пачынаюць бударажыць калектывы, запалохваць, зрываць конкурсы і аўкцыёны. Так, напрыклад, было па Лідскім заводзе харчовых канцэнтратаў, які спрабавалі прадаць па конкурсе, на ўмовах, вылучаных канцэрнам «Белдзяржхарчпрам». Але калі дайшла справа да конкурсу, калі з'явіліся добрыя інвестары, у якіх вялікія рынкі збыту, конкурс сарваўся», — паведаміў Кузняцоў.

Паводле яго слоў, аналагічная сітуацыя складаецца вакол Баранавіцкай швейнай фабрыкі і гомельскага прадпрыемства «Элегант». «Дырэктар бударажыць калектыў, падключае мясцовыя органы ўлады, прафсаюзы і стараецца сарваць прыватызацыю», — падкрэслівае старшыня Дзяржкаммаёмасці.

Апрача таго, зазначыў ён, міністэрствы і ведамствы сур'ёзна не займаліся прадпрыемствамі, якія ўвайшлі ў план прыватызацыі, і сваімі дзеяннямі таксама перашкаджаюць продажу актываў. «Спачатку ўносяць прапановы прадаваць прадпрыемствы на конкурсе ці на аўкцыёне, а як толькі пачынаем абвяшчаць дату конкурсу ці аўкцыёну, прысылаюць лісты, што перадумалі», — апісвае дзеянні ведамстваў Кузняцоў.

**БелаПАН**

# Дэфіцыт на будматэрыялы

Сотні людзей запісаліся ў чэргі на цэмент.

2011 год у гісторыі Беларусі стаў годам чэргаў. Дэфіцыт часоў СССР падкраўся незаўважна. Адзначаючыся ў чэргах па валюту, спрытныя людзі паспявалі адначасова начаваць пад вокнамі забудоўшчыкаў, каб заключаць дамову на кватэру з ільготным крэдытам.

Цяпер сярод беларусаў стыхійна ўтвараюцца новыя чэргі — на цэмент. Набыць цэмент не праблема, вось толькі ў большасці крамаў прадаецца расійскі тавар, па 70 тысяч рублёў за 50 кг. Але калі ўдасца купіць беларускі цэмент, то эканомія будзе істотнай — прадукцыя з Крычава каштуе ўсяго 30 тысяч рублёў за ўпакоўку. Дзякуючы такой розніцы ў цане чарга ахвотных набыць цэмент у найбліжэйшы час дасягне тысячы чалавек.

Шмат хто купляе цэмент на перапродаж, бо ў інтэрнэце пастаянна з'яўляюцца прапановы аб продажы ўпаковак за 50 тысяч рублёў. Але спекулянтам варта паспяшацца. Тэрмін захоўвання цэменту складае ўсяго два месяцы, пасля той цвярдзее і страчвае свае якасці.

**ЯВ**

# Валюта толькі пасля прыватызацыі

Нацбанк раіць чакаць, пакуль дзяржава прадасць маёмасці на $2,5-3 мільярды.

Нацбанк даў адказ на лісты Рады па развіцці прадпрымальніцтва і Бізнэс-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў ім. М.Куняўскага, у якіх тыя прапаноўвалі тэрмінова перайсці да рынкавага вызначэння курса даляра.

Нацбанк тлумачыць свае далейшыя дзеянні: «На дадзеным этапе ўяўляецца вельмі важным папярэдне рэалізаваць комплекс мераў, накіраваных у першую чаргу на стварэнне «падушкі бяспекі» — нарошчванне золатавалютных рэзерваў да ўзроўню, дастатковага для задавальнення адкладзенага попыту на замежную валюту». Гэта прынамсі $2,5-3 мільярды.

Да павелічэння рэзерваў на неабходную суму Нацбанк не збіраецца пераходзіць на рынкавы курс і даваць валюту ў абменнікі: мяркуецца, што ў гэтым выпадку непазбежная новая дэвальвацыя і рост сацыяльнай напружанасці.

Нагадаем, што на 1 ліпеня 2011 года памер валютных рэзерваў складаў усяго $1,7 мільярда, і тыя перакрываліся абавязкамі па свопах і крэдытах.

**ЯВ**

## Сцісла:

• **Новыя правілы падаткаў?** Міністэрства па падатках і зборах настойвае на пераразмеркаванні падаткаў паміж наймальнікамі і работнікамі. Цяпер працадаўцы плацяць 34% ад фонду заробкаў, а працаўнікі — 13%. Згодна з праектам, прапорцыя зменіцца на 20% і 27% адпаведна.

• **На зайдрасць Мясніковічу.** Краіны Еўразоны вырашылі выдзеліць Грэцыі стабілізацыйны крэдыт памерам $150 мільярдаў. Грошы даюцца надоўга — 15-30 гадоў, прычым прадугледжваецца, што краіна можа і не аддаць частку пазыкі.

• **Леў будзе жыць.** Балгарыя адклала на нявызначаны тэрмін перамовы пра ўступленне у еўразону і пакуль што застанецца з нацыянальнай валютай — левам. Краіна пачакае сканчэння крызісу ў зоне еўра. Раней меркавалася, што перамовы пачнуцца сёлета.

• **Рэйтынг пакаціўся уніз.** Агенцтва «Moody's Investors Service» паменшыла рэйтынг беларускіх аблігацый з B2 да B3. Прагноз па рэйтынгах выстаўлены як «негатыўны». Сітуацыя з банкаўскімі валютнымі дэпазітамі выглядае яшчэ горшай — рэйтынг упаў з B3 да Caa1. Рызыка вяртання ўкладаў — за дзве прыступкі ад дэфолту.

• **Год прадпрымальніцтва.** «МТС» каштуе $960-970 мільёнаў, таму мы прадаем яго за $1 мільярд». З такімі эканамічнымі падлікамі выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Георгій Кузняцоў.

**ЯВ**

# Вяселле ў турме: «Гартую сілы для будучай барацьбы»

22 ліпеня за кратамі ажаніўся палітвязень Павел Віниградаў. Пра цырымонію расказала яго жонка Святлана Гарахавік.

**«Наша Ніва»: Святлана, як прайшоў роспіс?**

**Святлана Гарахавік:** Надта хутка. Максімум тры хвіліны. Нічога ўрачыстага. Супрацоўніца ЗАГСа зачытала прамову і абвясціла нас мужам і жонкай. Ніякага маршу Мендэльсона... Пасля далі дзесьці паўгадзіны, каб пагаварыць з Паўлам бацькам, сведкам.

**«НН»: Прозвішча будзеце мяняць?**

**СГ:** Так, буду браць прозвішча Паўла.

**«НН»: Фота рабілі?**

**СГ:** Не, ні фатаграфаваць, ні здымаць на камеру нельга было.

**«НН»: Павел быў падчас роспісу ў турэмнай робе, хаця вы прыехалі ў сукенцы. Чаму ён не стаў пераапранацца?**

**СГ:** Калі мы зразумелі, што цырымонія будзе кароткай, Павел вырашыў не пераапранацца. Бо гэты час забралі б ад спатканне з роднымі.

**«НН»: А пярсцёнкі былі?**

**СГ:** Пярсцёнкаў не бралі. Я павінна была б іх сама купіць. Памер для Пашы падабраць было цяжка... А пасля мне трэба было б іх забіраць — у калоніі пярсцёнкі насіць забаронена. Паша іх набудзе, калі выйдзе на свабоду.

**«НН»: Дзе праходзіла спатканне?**

**СГ:** У асобным дамку, ізаляваным ад калоніі. Студэнцкі хостэл нагадвае, не надта добрай якасці. Але я чакала, што будзе горш. Пакой з чыстай бялізнай, кухня... Мы тры дні елі тое, што я нагатавала [спіс прадуктаў складаўся з 45 пунктаў — **Рэд.**]. На жаль, яму не дазволілі нічога ўзяць з сабой. Толькі аднаму яму з усіх, у каго было спатканне. Маўляў, у яго прадукты саспсуюцца, і ён атруціцца сам і ўвесь атрад таксама.


SVABODA.ORG

**«НН»: Абмежаванні пры спатканні былі?**

**СГ:** Нельга было выходзіць за межы дамка і дворыка ля яго. Дворык для прагулкі быў невялікі, і толькі краты над галавой нагадвалі, што знаходзімся ў калоніі.

**«НН»: Шмат размаўлялі, зразумела, пра асабістае. Чым Павел цікавіўся з жыцця за кратамі?**

**СГ:** Пра сяброў пытаўся. І цікавіла яго апазіцыйная дзейнасць: хто чым займаецца: «Гавары праўду», БНФ, «Еўрапейская Беларусь»...

**«НН»: Інфармацыя да яго даходзіць з-за турэмных муроў?**

**СГ:** Так. Атрымлівае газеты «Наша Ніва», «Народная воля», «Белгазету». Тэлевізар ёсць, які глядзіць, праўда, нячаста. Лісты атрымлівае.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«НН»: Як Павел сябе адчувае?**

**СГ:** Нядрэнны настрой, добра выглядае. Гартуе сілы для будучай барацьбы, як сам кажа. У калоніі ўсе яго ведаюць у твар, за што сядзіць, ведаюць.

**«НН»: Чым ён займаецца ў калоніі, працуе?**

**СГ:** Не працуе. Чытае, лісты піша. Спрабуе займацца спортам.

**«НН»: Калі плануеце наступнае спатканне?**

**СГ:** На верасень будзем пісаць заяву. На год нам дазволена два працяглыя спатканні.

**Сяргей Макарэвіч**

**Павел Віниградаў**

асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі за ўдзел у пратэстах 19 снежня 2010 г. Напісаць яму можна на адрас: 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія № 22.

**Палажанка і Дашкевіч возьмуць шлюб**

Вяселле Віниградавых — не адзінае ў палітзняволеных. На верасень плануюць вяселле Наста Палажанка і Зміцер Дашкевіч. Вяселле пройдзе восенню ў калоніі ў Горках, дзе лідар «Маладога Фронту» адбывае двухгадовае турэмнае пакаранне.

Дашкевіча і яго сябра Эдуарда Лобава затрымалі 18 снежня 2010 года, за дзень да выбараў, і абвінавацілі ў злосным хуліганстве.

Сваё нядаўняе 30-годдзе лідар «Маладога Фронту» сустрэў у карцары.

Дашкевічу можна напісаць на адрас: 213410 Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Дабралюбава, 16. Папраўчая калонія №9.

**Анархісты — таксама**

Мікалай Дзядок і Аляксандр Францкевіч, анархісты, асуджаныя за напад на расійскае пасольства, таксама вырашылі ўзяць шлюб са сваімі нявестамі. Валерыя Хоціна і Настасся Кухта рыхтуюць патрэбныя дакументы. Па словах Валерыі, ажаніцца атрымаецца не раней за канец верасня.

Мікалай Дзядок асуджаны на чатыры гады і шэсць месяцаў калоніі ўзмоцненага рэжыму (213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія № 15), Аляксандр Францкевіч — на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму (225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія № 22).

# Мілінкевіч дабіваўся палёгкі Ліхавіду

19 ліпеня сябры Руху «За Свабоду» разам з лідарам арганізацыі Аляксандрам Мілінкевічам былі ў Наваполацкай калоніі. Іх хваляваў лёс Мікіты Ліхавіда. Гэты хлопец быў асуджаны на 3,5 гады зняволення за ўдзел у пратэстах 19 снежня. За парушэнне ўнутранага распарадку калоніі Ліхавід пяты раз трапіў у штрафны ізалятар на 20 дзён.

«Гэта быў прыёмны дзень. Мы сустрэліся з намеснікам начальніка калоніі па выхаваўчай працы Андрэем Янчыленкам. Потым папрасілі сустрэчы з начальнікам Аляксандрам Сівохам. Просьбу задаволілі. Разам з Сівохам у кабінецe знаходзіўся начальнік медычнай часткі», — сказаў А.Мілінкевіч.

Палітык пераконваў, што справа Ліхавіда не такая простая, што яго прызнаюць палітвязнем. «Мне адказвалі, што распарадак для ўсіх вязняў у калоніі аднолькавы, і ніякіх палёгак Ліхавіду не будзе. Доктар сказаў, што Мікіта па медыцынскую дапамогу не звяртаўся».

Аляксандр Сівоха адзначыў, што калі парушэнні будуць працягвацца, то Ліхавід можа быць пераведзены з калоніі ў турму. Гэта значыць, на яшчэ больш строгі рэжым.

Таксама ў калоніі ў Наваполацку знаходзіцца маладафронтавец Алесь Кіркевіч. «Нам сказалі, што Алесь размаўляе з усімі па-беларуску.

Мілінкевіч хацеў асабіста сустрэцца з Мікітам Ліхавідам, але пакуль ён у штрафным ізалятары, сустрэчы забароненыя. «Тым не менш, гэта магчыма. Трэба, каб Мікіта напісаў заяву аб сустрэчы. У адміністрацыі калоніі сказалі, што не супраць», — зазначыў Мілінкевіч.

Мікіта Ліхавід раней ужо правёў 35 дзён (10, 15, 5, 5) у карцары. Напісаць яму можна на адрас: 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10.

**Зміцер Панкавец**

**Маці Мікіты Ліхавіда Алена была затрыманая**

20 ліпеня падчас маўклівай акцыі ў Мінску. Суддзя Вайцяховіч даў жанчыне 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

# Змітра Бандарэнку ў карцары трымалі на ланцугу

Палітвязня наведала жонка Вольга.

Зміцер расказаў ёй, што ў студзені, калі трапіў у карцар, яго некалькі гадзін пратрымалі на ланцугу. У карцар ён трапіў пасля таго, як звярнуўся па медыцынскую дапамогу праз язву страўніка.

26 ліпеня Бандарэнку прааперавалі ў 5-й клінічнай бальніцы Мінска. У яго чатыры грыжы дыскаў хрыбетніка, ушчамленне трох спіннамазгавых нерваў. У чэрвені стан здароўя Змітра пагоршаў. Яго перавялі ў Рэспубліканскую турэмную бальніцу. Пасля яго паставілі перад выбарам: вяртацца ў калонію ці класціся на аперацыю.

Па словах жонкі палітыка Вольгі, аперацыя прайшла ўдала.

Спачатку аперацыю планавалі на 25 ліпеня, і родныя ды сябры Бандарэнкі прыехалі ў бальніцу, каб падтрымаць яго. Але чалавек у цывільным запатрабаваў, каб яны разышліся. Маўляў, не паложана, бо Бандарэнка зняволены. Калі Вольга адмовілася, Змітра павезлі назад у турму. У выніку аперацыя прайшла на дзень пазней.

Зміцер Бандарэнка быў прысуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010 г.

**КМ**

Старшыня Еўрапарламента Ежы Бузек заклікаў беларускія ўлады вызваліць каардынатара грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Змітра Бандарэнку, які быў даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года Андрэя Саннікава. «Спадар Бандарэнка, як і многія тысячы безыменных герояў, змагаецца за свабоду, дэмакратыю і лепшую будучыню для ўсіх беларусаў. Іх пазіцыя вымагае найвышэйшага прызнання і рашучай падтрымкі».

## Ці абразлівае слова «незаконнаабраны»?

Ці будзе распачатая крымінальная справа за абразу Лукашэнкі, стане вядома пасля лінгвістычнай экспертызы.

20 ліпеня ў Віцебскай абласной пракуратуры былі ўзятыя тлумачэнні ў актывіста Руху «За Свабоду» Юрыя Салодкага. Следчы распытваў пра яго заклік да супрацоўнікаў спецслужб, распаўсюджаны напярэдадні акцыі пратэсту 3 ліпеня. Юрый разаслаў ліст на электронныя скрыні праваахоўных органаў, у якім заклікаў «не выконваць злачынныя загады незаконнаабранага прэзідэнта Лукашэнкі». Цяпер тэкст накіравалі ў некалькі ўніверсітэтаў на лінгвістычную экспертызу на прадмет наяўнасці ў ім абразы Аляксандра Лукашэнкі.

**КМ**

## Сцісла

• **Яўген Васьковіч трапіў у карцар.** Асуджаны анархіст з Бабруйска адмовіўся аддаць Біблію на беларускай мове, што і стала падставай для пераводу яго ў ШІЗА. Напісаць Яўгену можна на адрас: 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія № 15.

• **Прысуд Уладзіміру Някляеву,** Андрэю Дзмітрыеву, Уладзіміру Лобану, Андрэю Федаркевічу, Дзмітрыю Дароніну, Сяргею Казакову, Яўгену Сакрэту, Віталю Мацукевічу, Ірыне Халіп, Паўлу Севярынцу, Сяргею Марцалеву, удзельнікам акцыі 19 снежня 2010 г., пакінулі без зменаў.

• **Генпракуратура праверыла факты праслухоўвання экс-кандыдатаў у прэзідэнты.** Падчас судовых працэсаў над удзельнікамі акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года зачытваліся расшыфроўкі праслухоўвання тэлефонных размоў палітыкаў, што вяліся задоўга да выбараў. Генпракурор так і не адказаў, на якіх падставах вялося праслухоўванне.

**КМ**

# БАТЭ адзін за ўсіх

Працяг са старонкі 1.

### З Белфаста з любоўю

Цяпер барысаўскі клуб цягам усіх ніжэйшых раўндаў Лігі чэмпіёнаў будзе ў ліку «сеяных», то бок каманд, якія атрымліваюць у супернікі слабейшага. Прынамсі, рэйтынгам. Гэта выключае такія непрыемныя сустрэчы, як была летась з дацкім «Капенгагенам».

У першым раўндзе нашы хлопцы гулялі з паўночнаірландскім «Лінфілдам». У тэорыі праблем узнікнуць не павінна было, на справе выйшла трохі не так. У Белфасце ў Дзень аранжыстаў (свята, якое нярэдка азмрочваецца бойкамі пратэстантаў і каталікоў) БАТЭ згуляў унічыю 1:1.

Праз тыдзень ужо ў Барысаве нашы не маглі знайсці ключык да брамы праціўніка ўвесь першы тайм. На шчасце, у другім удалося забіць двойчы. Ірландцы былі шчыра радыя такому ліку.

У пасляматчавых каментарах трэнер «Лінфілда» Дэвід Джэфры не шкадаваў кампліментаў на адрас Беларусі ў цэлым і БАТЭ ў прыватнасці. «Гэта прыгожая краіна, з прыгожымі людзьмі. І мае гульцы цалкам з гэтым згодныя. У нас мужчыны вельмі тоўстыя, а жанчыны — вельмі худыя».

Трэнер паўночнаірландцаў параўнаў БАТЭ з нарвежскім «Русенборгам» і харвацкім «Дынама», сказаўшы, што беларусы нашмат мацнейшыя. «Я ганаруся сваёй камандай, няма нічога ганебнага ў тым, каб прайграць такому моцнаму клубу».

### Балтыйскі комплекс

У наступным коле БАТЭ згуляе з літоўскім «Экранасам». Можна смела казаць, што гэта не тая каманда, якой трэба баяцца. На першы план у літоўскім футболе «Экранас» выйшаў толькі ў апошнія гады, калі сышлі ў цень «Каўнас» і «Жальгірыс» (па-літоўску «Грунвальд»).

Тым не менш, не трэба забывацца на здарэнне двухгадовай даўніны з латвійскім «Вентспілсам», калі ўсе таксама былі ўпэўненыя ў перамозе БАТЭ, а выйшаў жорсткі аблом. Каб толькі балтыйскі комплекс у каманды не выпрацаваўся.

Дарэчы, ад таго самага «Вентспілса» ў мінулы чацвер пацярпеў у Лізе Еўропы яшчэ адзін беларускі клуб — салігорскі «Шахцёр». Над гэтай камандай увогуле вісіць нейкае праклёнцце. Яшчэ ніводнага разу «гарнякі» не змаглі прайсці суперніка ў еўракубках.

Гэты раз не стаў выключэннем. Хаця салігорцы і кантралявалі ход гульні ў Латвіі, але ўмудрыліся за апошнія дзесяць хвілін прапусціць два галы і саступіць.

### Турэцкі гамбіт

Еўрапейскаму навічку «Мінску» пасля перамогі над азербайджанскім АЗАЛам трапіўся ў супернікі грозны турэцкі «Газіянтэпспор». У Мінску на трыбунах невялікая група турэцкіх заўзятараў змагла перакрычаць большую колькасць беларусаў.

Што тады казаць пра гульню ў Газіянтэпе (горад на мяжы з Сірыяй). «Мінск» адчайна змагаўся гадзіну гульні, трымаючы прымальны лік 1:1. Аднак потым пасыпаўся. У выніку зусім не заслужаная буйная перамога туркаў — 1:4.

«Мінск» за гады існавання так і не паспеў абрасці «балельшчыцкім мясам», таму свае матчы звыкла праводзіць пры мізэрнай колькасці гледачоў. Еўракубкі тут сітуацыю не змянілі.

Застаецца яшчэ ў беларускай абойме «Гомель». Праўда, каманда пакуль не згуляла ніводнага матчу. У трэцім раўндзе Лігі Еўропы іх чакае турэцкі «Бурсаспор». Ізноў-такі не падарунак. Калі каманда саступіць, то ніхто дзівіцца не будзе.

Дарэчы, «кракадзілы» з Бурсы — адзін з двух футбольных клубаў Турцыі, які змог перарваць гегемонію трох стамбульскіх грандаў («Галатасарай», «Фенербахчэ», «Бешыкташ»). Летась «Бурсаспор» гуляў у групавым этапе Лігі чэмпіёнаў, але ў матчах з «Манчэстэр Юнайтэд» і «Глазга Рэйнджэрс» бліснуць не змог.

Вось і выходзіць, што ўсе погляды зноў накіраваныя ў бок Барысава. Толькі каманда Ганчарэнкі мае рэальны шанец на футбольную восень. Гендырэктар каманды Анатоль Капскі агучвае амбітныя планы вывесці каманду на поўную самаакупнасць. Удзел у еўратурнірах прыносіць немалыя грошы. Раней такога ў нас не было.

**Зміцер Панкавец**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Турэцкія аматары лёгка перакрычалі беларускіх падчас гульні «Мінск» — «Газіянтэпспор». У каманды Мінгарвыканкама фанатаў пакуль няшмат.

# Уругвай — самая паспяховая футбольная краіна



Уругвайцаў у 2,5 разы меней за беларусаў, але гэта не замінае ім штампаваць перамогі.

Хай Паўднёвая Амерыка ад нас далёка, але футбольных аматараў рэгіён гэты вельмі вабіць. Як вядома, тут у футбол умеюць гуляць усе. У нядзелю ў Аргенціне скончыўся розыгрыш Кубка Амерыкі (*Copa América*).

Турнір прыцягвае хаця б тым, што прахадных матчаў тут проста не існуе. У гэтым лёгка пераканацца на сёлетніх спаборніцтвах. Запісныя фаварыты Аргенціна і Бразілія нават не змаглі выйсці ў паўфінал.

У вырашальным матчы сустрэліся Уругвай і Парагвай. Перамога другіх была б верхам абсурду, бо цягам Кубка яны ўмудрыліся не выйграць ніводнай сустрэчы. Хаця не прайгралі таксама ні разу. У групе было тры нічыіх, а ўжо потым перамогі ў серыі пенальці (футбольнай латарэі) над Бразіліяй і Венесуэлай. Брамніку Вільяру час ставіць помнік.

Што да Уругвая, то яны таксама ішлі на тоненькага. Тым не менш, выглядалі салідней. У вырашальнай гульні ўругвайцы засведчылі сваю перавагу трыма галамі.

Можна меркаваць, што іхны поспех не выпадковы. На апошнім сусветным спаборніцтве яны таксама былі вышэйшымі за астатнія зборныя з Паўднёвай Амерыкі. Маючы ўсяго толькі 3,5 мільёны насельніцтва, Уругвай двойчы рабіўся чэмпіёнам свету, а выйгрыш на Кубку Амерыкі ўжо пятнаццаты — столькі няма ні ў кога.

Яшчэ ў міжваенны час ва Уругвай ехалі выхадцы з Беларусі. Ім тут абяцалі зямлю і высокія заробкі. На справе ж выявілася, што зямля ва Уругваі не дужа ўрадлівая, таму большасць эмігрантаў пераязджалі ўрэшце ў Аргенціну. Цікава, што ў 1960—70-я за нацыянальную зборную Уругвая гуляў футбаліст з іменем Ладзіслаў Мазуркевіч. Няма дакладных звестак, адкуль быў бацька футбаліста. Паведамляецца толькі, што ён быў сынам «паляка і ўраджэнкі іспанскай Ла-Каруны». Не выключана, што род ягоны мог быць і з Заходняй Беларусі.

**ЗП**

# Топ-5 пераходаў хакейнага лета

Лета — перыяд адпачынкаў у хакеістаў. Новы сезон пачнецца толькі ў верасні. Некаторыя бавяць час на Мальдывах, іншыя ж занепакоеныя пошукамі новай каманды. Як у гэтым плане справы ў беларускіх хакеістаў?

### 5 Аляксандр Макрыцкі. Завяршэнне кар'еры.

Аляксандр Макрыцкі быў адным з апошніх дзейных гульцоў, што скавалі славу беларускаму хакею ў 1990-я. Час бярэ сваё. У жніўні Макрыцкаму 40 гадоў. Апошні сезон ён правёў у жлобінскім «Металургу». За нацыянальную зборную хакеіст правёў 169 гульняў. Больш за Макрыцкага не гуляў ніхто.

### 4 Віталь Коваль з «Атланта» ў «Тарпеда» (Ніжні Ноўгарад)

Кажуць, руды ў камандзе на шчасце. Тым не менш, дома Віталь Коваль не патрэбны другі сезон запар. Коваль — бліскучы варатар, які раскрыўся ў гродзенскім «Нёмане». У апошнім сезоне КХЛ ён быў трэцім па надзейнасці. У плэй-оф увогуле гуляў да траўмы лепш, чым хто. Дзіўна, што падпісаць кантракт з топ-клубам не ўдалося. Коваль з'язджае ў Ніжні Ноўгарад.

### 3 Кантракты з легіянерамі ў мінскім «Дынама»

У мінскім «Дынама» зноў спрабуюць стварыць новую каманду. Склад аднавіўся амаль напалову. Замест старых легіянераў прыйшлі новыя. Глазачава, Спірыдонава, Штумпела, Фернхольма, Сікору, Эша мяняюць на Гру, Лінглета, Лайне, Хаўгена, Піўка, Крайчака, Обшута, Іргла. Легіянеры мяняюцца так часта, што мінская публіка не паспявае звыкнуцца. Хіба што канадзец Джэф Плат паспеў зрабіцца любімцам публікі. Нездарма ён думае пра змену грамадзянства. У беларускай зборнай Плат дакладна чужым не быў бы.

### 2 Сыход Касцючонка і Дзямагіна з «Дынама»

Адна справа — прыход легіянераў: з ёй яшчэ можна змірыцца. Крыўдна іншае: што не могуць захаваць сваіх. Форвард Сяргей Дзямагін апынуўся ў татарскім «Нафтахіміку», а абаронца Віктар Касцючонак — у екацерынбургскім «Аўтамабілісце». Нешта не зраслося ў хакеістаў з кіраўніцтвам мінскай каманды. Раней тое ж было з Дзянісавым. Усе яны пакінулі «Дынама» з нейкай крыўдай.

### 1 Руслан Салей з «Дэтройт Рэд Уінгз» у «Лакаматыў» (Яраслаўль)



У Расію Руслан Салей прыехаў дагульваць.

Руслан Салей — адзіны з квартэта беларусаў у НХЛ, што развітаўся са сваёй камандай. У «Дэтройт» «Расці», як называлі яго ў Амерыцы, ішоў, каб заваяваць Кубак Стэнлі, аднак не ўдалося зноў. У 2003 годзе Салей гуляў у фінале гэтага спаборніцтва. У адной з сустрэч серыі наш хакеіст стаў сапраўдным героем, калі ў овертайме прынёс перамогу «Анахайму». Праўда, у наступнай гульні «магутныя качары» саступілі «д'яблам» з Нью-Джэрсі. Безумоўна, Салей бы яшчэ мог пагуляць сезон-другі за акіянам, але абраў іншы працяг кар'еры. У Яраслаўлі ён заробіць больш, чым у НХЛ. Цікава, што першым супернікам мінскага «Дынама» ў сезоне будзе якраз «Лакаматыў».

**ЗП**

# Чалавек вялікай веры




Спачыў кардынал Казімір Свёнтак.

Ён пражыў 96 гадоў. Месяц правёў у камеры смяротнікаў і дзевяць — у канцлагеры. 21 ліпеня, а 9-й раніцы адышоў у вечнасць Казімір Свёнтак.

У 1941 годзе саветы прыгаварылі маладога святара Казіміра Свёнтка да расстрэлу. Ён чакаў яго месяц у Брэсцкай турме. Але пачалася вайна, і прысуд не паспелі выканаць.

Пасля вайны святара Свёнтка адправілі на 10 гадоў у канцлагер. Пасля смерці Сталіна ён вярнуўся ў Беларусь. Не зламаны, не надломлены, не азлоблены. Служыў не ў сталіцы, нават не ў абласным цэнтры — у Пінску. Адбудаваў там сабор.

Калі Беларусь стала незалежнай, ён узначаліў беларускі касцёл і — хоць сам паляк — зрабіў яго беларускім па мове і духу.

Эпоха адбілася ў лёсе гэтага чалавека. Нашага вялікага суайчыннніка.

**Андрэй Дынько**

**Кардынал Казімір Свёнтак**

нар. 21 кастрычніка 1914 у Валзе (Эстонія). Калі яму было 3 гады, яго сям'ю вывезлі ў Сібір. Скончыў семінарыю ў Пінску ў 1939 і скіраваны на працу ў Пружаны. Пры савецкай уладзе арыштаваны. Два месяцы знаходзіўся ў камеры смяротнікаў. Вайна перашкодзіла выканаць прысуд. У 1944 зноў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў спачатку ў Сібіры, а потым за Палярным колам у Інце. Выйшаў на волю ў 1954, служыў у Пінску. Нават арцыбіскупам адмовіўся ад пераезду ў катэдж, жыў у той самай малой хатцы, што і за саветамі. Папа Ян Павел II у 1991 прызначыў яго першым Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім. У 1994 яму надаюць тытул кардынала. Дажываў кардынал таксама ў Пінску, а не ў сталіцы.

**У Мінску труна з целам кардынала** была выстаўленая для развітання 23 ліпеня. Спачыў Свёнтак 25 ліпеня ў мармуровым саркафагу ў крыпце пінскага кафедральнага касцёла. Развітацца са сваім кардыналам прыйшлі больш за тры тысячы вернікаў.

## Свёнтак і «Чорны замак Альшанскі»

Зянон Пазняк адгукнуўся на смерць кардынала ўспамінам пра тое, як у 1960-я наведваў тады яшчэ ксяндза Свёнтка ў Пінску.

«Пабываўшы ў ягонай хаце, мы зразумелі, што ксёндз — асоба не простай біяграфіі. Памятаю таксама, што ксёндз ганяў на двухцыліндровым матацыкле, аж пыл курэў, здымаў на кінакамеру аматарскія фільмы, фільмаваў туманы і золак над Пінаю.

Гаварыў ён няшмат і нічаму не даваў сваіх ацэнак. Але ў міжчассі адчыніў, відаць, адмыслова падрыхтаваную да нашага прыходу, тэчку з паперамі і паклаў перад намі нейкі касцельны дакумант ці ні з XVI-га стагоддзя, напісаны па-старабеларуску на пажоўклай порыстай паперы. Сэрцы нашыя затрымцелі. Свёнтак маўчаў».

Вобраз ксяндза на матацыкле пасля з'явіцца ў рамане Караткевіча «Чорны замак Альшанскі». Памятаеце — Леанард Жыховіч, святар з пакутным лёсам, да канца чысты душой.

**Сяргей Мікулевіч**

*Казімір Кардынал Свёнтак*

*21.10.1914 – 21.07.2011*

*Вечная памяць*

З вялікім жалем мы ўспрынялі весткі аб смерці Кардынала Казіміра Свёнтэка, у мінулым Арцыбіскупа Мітрапаліта Мінскага і Магілёўскага, Апостальскага адміністратара Пінскай епархіі. Яго смерць — вялікая страта для Каталіцкага Касцёла на Беларусі, якому Кардынал прысвяціў усё сваё жыццё. Не стала вялікага маральнага і духоўнага аўтарытэта, сапраўднага сына польскага народа. Сваім жыццём, поўным цяжкіх выпрабаванняў, пастырскай актыўнасцю, выдатнымі арганізацыйнымі здольнасцямі ён заслужыў самую высокую павагу святароў і вернікаў. Вялікі ўклад Арцыбіскупа ў адраджэнне Касцёла на Беларусі, яго адданасць і ахвярнае служэнне людзям атрымалі заслужанае прызнанне, што пацвярджаюць шматлікія ўзнагароды Кардынала: Камандорскі Крыж з Зоркай Ордэна Адраджэння Польшчы, Ордэн «Ecce Homo», узнагарода «Fidei Testis» і Камандорскі Ордэн Ганаровага Легіёна.

Лешэк Шэрэпка Пасол РП у РБ
і ўсе супрацоўнікі

## Свёнтак не адужаў пасля пералому шыйкі сцягна

Пасля траўмы ён пражыў 14 месяцаў.

19 мая 2010 года Свёнтак зламаў шыйку левага сцягна. Іерарху адразу зрабілі аперацыю ў Мінску. А ў верасні — паўторную аперацыю ў Любліне. Рэабілітацыя ішла нармальна, Свёнтак пачынаў перасоўвацца. Але ў сакавіку 2011 кардынал перажыў паўторны пералом косткі сцягна і чарговую аперацыю.

## Заснавальніку беларускамоўнага сервісу «Кнігі — поштай» пагражае турма

Алесю Яўдаху пагражае пазбаўленне свабоды да трох год.

Алеся Яўдаху вінавацяць у незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці паводле ч.1 арт. 233 КК. Згодна з законам, яму пагражае штраф, або арышт на тэрмін да 6 месяцаў, або абмежаванне свабоды да 2 гадоў, або пазбаўленне свабоды да 3 год. 28 ліпеня справу пачнуць разглядаць у Кастрычніцкім судзе Мінска а 10-й.

**Сямён Печанко**

## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адрз. № 539 ААТ «Белінвестбанк»,
вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе.

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 9210 руб./месяц

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

# Падтрымка з неба

**Грузінскі вытворца цацачных самалёцікаў Павел Тапузідзіс стаў адным з самых набліжаных да Лукашэнкі бізнэсоўцаў Беларусі.**

Ён уваходзіць у дзясятку самых уплывовых бізнэсоўцаў Беларусі. Ён уладальнік гіпермаркетаў «Карона» і ўласнік адзінай прыватнай вытворчасці цыгарэт. Усё гэта Павел Тапузідзіс — чалавек, якога мала хто бачыў у твар. Ніводнага інтэрв’ю ў СМІ, рэдкія фота, ніводнага з’яўлення на публіцы... Нават закрытыя ад беларусаў мільянеры Юрый Чыж і Уладзімір Пефціеў свяціліся пад прыцэлам камер.

Пакуль ягоная кампанія «Тытунь-Інвест» з дазволу дзяржавы спальвае лёгкія беларусаў, сам Тапузідзіс будуе сабе верталётны клуб і маёнтак на беразе Мінскага мора. «Наша Ніва» расказвае пра разгалінаваны бізнэс таямнічага алігарха.

Паводле нашай інфармацыі, у чалавека-касмапаліта Паўла Тапузідзіса змяшаныя грузінская і грэцкая кроў. Прычым менавіта Грэцыя з’яўляецца ягоным другім домам. Першым домам стала Беларусь. Акурат тут малавядомы замежнік, які пачынаў з вытворчасці пластмасавых цацачных самалёцікаў, атрымаў у рукі звышпрыбытковы тытунёвы бізнэс.

## У князі з дазволу дзяржавы

«Тытунь-Інвест» — мінская кампанія, якая займаецца адначасова і імпартам, і ўласнай вытворчасцю цыгарэт. Тытунёвы рынак жорстка кантралюецца ўладамі. На ім усяго два гульцы — Гродзенская тытунёвая фабрыка, больш за 99% акцый якой належаць дзяржаве, і сумеснае амерыканска-беларускае прадпрыемства Тапузідзіса.

Квота «Тытунь-Інвест» на 2011 год складае 7,6 мільярда цыгарэт, гэта каля 28% ад агульнай колькасці цыгарэт, якія выпускаюцца ў краіне. Кампанія па ліцэнзіі робіць папулярныя сярод беларусаў маркі Winston, Camel, Monte Carlo ды іншыя. А вось імпарт ажыццяўляецца ў цеснай сувязі з Кіраўніцтвам справамі прэзідэнта, а дакладней з адным з яго падраздзяленняў — гандлёвым домам «Усходні».

## Кароль гіпермаркетаў

Другі профіль Тапузідзіса сугучны спецыялізацыі мільянера Юрыя Чыжа. Яны абодва зрабілі стаўку на гіпермаркеты, у першага «Карона», у другога — «Прастор».

Гандлёвыя цэнтры «Карона» працягваюць сваё шэсце па краіне. Першы з іх быў адкрыты ў Мінску ў 2006 годзе, праз тры гады чарговы з’явіўся ў Брэсце. Летась гіпермаркет з’явіўся і ў першым райцэнтры — у Бабруйску. У стадыі будаўніцтва знаходзіцца і чацвёртая «Карона», якая змесціцца ў Віцебску, а ў найбліжэйшай перспектыве — «Карона-Уручча» ў сталічным мікрараёне Вялікі Лес.

У камплекце з вялікімі крамамі прадуктаў ідуць велізарныя «Карона-тэхна». Як вынікае з назвы, там гандлююць тэхнікай.

Бізнэс Тапузідзіса не варта блытаць з аднайменным гандлёвым цэнтрам у Гродне, які належыць Лазару Нісаеву.

## Прыляціць Тапузідзіс на сваім верталёце...

На сайце «Кароны» можна заўважыць рэдкую для Беларусі аб’яву — продаж і арэнда верталётаў. Лагічная сувязь паміж гэтым захапленнем Тапузідзіса і яго першым цацачным бізнэсам навідавоку.

Вось ужо трэці год у Ратамцы, што каля Мінскага мора, «Тытунь-Інвест» будуе першы ў краіне верталётны клуб. І нягледзячы на крызіс, аддзелачныя працы вось-вось скончацца. Элітныя рэстаран, гатэль, а таксама шыкоўны «гасцявы домік» за 200 метраў ад іх на самым беразе вадасховішча, у якім будзе жыць уласна гаспадар. Глухі плот сведчыць пра тое, што Тапузідзіс не чакае выпадковых наведнікаў. Побач пабудаваны і ангар для асабістага верталёта мільянера.

Магчымасць не толькі палётаць, але і паліхачыць на маторных лодках прыцягне залатую моладзь Мінска. Усе ўмовы ёсць і для спакойнага арыстакратычнага адпачынку. Ратамка — цэнтр коннага спорту Беларусі.

Клуб яшчэ дабудоўваецца, а палётаць на чатырохмясцовым верталёце прапануецца ўжо цяпер. Для цікаўных удакладнім кошт. Гадзіна палёту каштуе 1 245 000 рублёў незалежна ад колькасці пасажыраў на борце (ад аднаго да трох), прычым вылятаць можна проста з тэрыторыі аэрадрома «Мінск-1».



**Праект «Замка».**

**Брэнд «Карона» стаў пазнавальным сярод беларусаў.**

**Павел Тапузідзіс быў кіраўніком адной з участковых камісій па выбарах прэзідэнта.**

## Замак ля рэзідэнцыі

У жніўні мінулага года быў гучна анансаваны праект забаўляльнага комплекса на Нарачы, які мусіў рэалізаваць «Тытунь-Інвест». Кіраўнік дзяржавы ўласнаручна выдзеліў пляцоўку пад аэраклуб, цэнтр водных забаў і цэнтр дайвінгу. І тут ізноў узнікаюць паралелі з Юрыем Чыжом, якога прымушалі забудоўваць Белавежскую пушчу. Праўда, ці дойдзе да будаўніцтва на Нарачы — адкрытае пытанне. Праект доўга праходзіў узгадненне, але ўсё адно выклікае пратэсты эколагаў і грамадскасці.

Другі запланаваны Тапузідзісам аб’ект — найвялікшы ў Беларусі гандлёва-забаўляльны цэнтр «Замак». Раней яго меркавалі назваць «Лідо». Гэта будзе «сучасны чатырохпавярховы будынак з этнічнымі элементамі беларускіх замкаў», як абяцаюць архітэктары. Яго маюць пабудаваць на праспекце Пераможцаў у Мінску каля завода «Атлант». Апроч прадуктовай «Кароны» тут будуць крытая коўзанка, кінатэатр-мультыплекс на тры залы, казіно і стрыптыз-клуб. І ўсё гэта — пад носам у Аляксандра Лукашэнкі. Яго новая рэзідэнцыя будуецца за некалькі соцень метраў ад «Замка» Тапузідзіса.

## Сацыяльная нагрузка

Як і многія іншыя беларускія паспяховыя кампаніі, «Тытунь-Інвест» атрымаў ад дзяржавы стратны калгас у Любанскім раёне. Але гаворка перадусім не пра яго, а пра асабістую нагрузку Тапузідзіса.

Вы будзеце смяяцца, але «сціплы» мільянер не адмаўляецца і ад выканання важных палітычных задач. У часе прэзідэнцкай кампаніі-2010 на адным з сотняў мінскіх выбарчых участкаў старшынём камісіі быў абраны... Павел Георгіевіч Тапузідзіс — «ад працоўнага калектыва бухгалтэрыі ААТ «Тытунь-Інвест».

## Брат-2

Як паказвае практыка, у дзяржавы ёсць істотныя аргументы, каб не даваць расслабляцца мільянерам і трымаць іх у тонусе. У выпадку кіраўніка «Тытунь-Інвеста» найбольш гучныя гісторыі звязаныя не з самім ім, а з ягоным братам Віталём Тапузідзісам. Як сцвярджае «Ежедневнік», той не мае адносінаў да бізнэсу брата, але не раз спрабаваў прыкрывацца ягоным імем. Напрыклад, у 2006 годзе праваахоўныя органы падазравалі Віталя Тапузідзіса ў кантрабанднай пастаўцы цыгарэт у Беларусь. А ў студзені 2011 года Тапузідзіс-брат быў затрыманы па падазрэнні ў падбухторванні да дачы хабару чыноўнікам. Уладальнік мінскага рэстарана Casa Agustin Lopez, які наймаў памяшканне ў Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, перадаваў $5 тысяч за «спрыяльнае рашэнне пытання арэнды». Следства падазравала Віталя Тапузідзіса ў тым, што ён абяцаў вырашыць усе праблемы праз свае сувязі, просячы за паслугі $10 тысяч. МУС Беларусі не дае ніякіх каментароў па гэтай справе, таму невядома, ці выйшаў на свабоду брат мільянера.

**Віталь Несцераў**


HIBARA.NET
**Зімовы выгляд маёнтка Тапузідзіса.**


HIBARA.NET
**Верталётны клуб.**

# Чыноўнікі старэюць разам з Лукашэнкам

## 60 найвышэйшых урадоўцаў: хто яны?

**За апошнія два гады кіроўная эліта краіны абнавілася на траціну.**

Калі ўзяць 60 найвышэйшых чыноўнікаў (прэм'ер-міністр, віцэ-прэм'еры, спікеры парламента, старшыні асноўных судоў, кіраўнікі Адміністрацыі прэзідэнта, Рады бяспекі, старшыня Камітэта дзяржкантролю, генпракурор, кіраўнік справаў прэзідэнта, міністры, старшыні дзяржаўных і нацыянальных камітэтаў, старшыні аблвыканкамаў, старшыня ЦВК, старшыня Нацбанка, начальніка галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення), то знаходзім у спісе дваццаць новых асоб. Змен адбылося болей, але большасць чыноўнікаў проста перасела на іншыя пасады ў выніку ракіровак унутры ўладных структур.

### З пенсіянерамі на чале

Сярэдні ўзрост беларускага чыноўніка найвышэйшага рангу цяпер складае 54,4 гады. За два гады ён узрос на 0,2 года. Але гэта менш, чым Лукашэнку, якому ў жніўні споўніцца 57 гадоў.

Тым не менш, сярэдні ўзрост найвышэйшых чыноўнікаў у Казахстане складае 48 гадоў, у Расіі — 45. У Эстоніі ва ўрадзе дастаткова шмат міністраў, якім няма 40.

У нас такі толькі адзін — міністр культуры Павел Латушка (38). Яшчэ ёсць начальнік ідэалагічнага ўпраўлення Усевалад Янчэўскі, якому 35. Ну і Віктар Лукашэнка (35), вядома. Але ягонае пакаленне ў цэлым пакуль застаецца на ролях другога плану, хоць часамі і важных.

Саракагадовых таксама нямнога. Гэта віцэ-прэм'ер Сяргей Румас (42), міністр эканомікі Мікалай Снапкоў (42), старшыня памежнага камітэта Ігар Рачкоўскі (43), міністр спорту Алег Качан (44). Большасць з іх маюць рэпутацыю патрыётаў і рыначнікаў, дарэчы.

### Адзінаццаць пенсіянераў

Пенсіянераў непараўнальна болей. Прычым яны сядзяць на самых важных пазіцыях. Гэта і прэм'ер Міхаіл Мясніковіч, і ягоныя намеснікі Уладзімір Сямашка і Анатоль Тозік, і спікеры абедзвюх палат парламента Анатоль Рубінаў і Уладзімір Андрэйчанка, старшыня Вярхоўнага Суда Валянцін Сукала, кіраўнік Рады бяспекі Леанід Мальцаў, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, старшыні Брэсцкага і Мінскага аблвыканкамаў Канстанцін Сумар і Барыс Батура, старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына.

Год ці два да пенсіі застаецца яшчэ дзевяці чыноўнікам. Сярод іх — міністр замежных справаў Сяргей Мартынаў, міністр юстыцыі Віктар Галаванаў.

Старэйшынай чыноўніцкага корпуса з'яўляецца Анатоль Рубінаў, якому 72 гады. Але бадзёрасці гэтаму чалавеку хапае, вось нядаўна выпусціў зборнік вершаў.

Калі браць чыноўніка, які найдаўжэй без перапынку займае сваю пасаду, то гэта Валянцін Сукала. У крэсле старшыні Вярхоўнага Суда ён сядзіць ужо 14 гадоў. Гэты чалавек быў міністрам юстыцыі яшчэ ў БССР.

### А кухарка можа?

Сярод чыноўнікаў маем восем прафесараў (прэм'ер-міністр Мясніковіч, Рубінаў, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Віктар Камянкоў, генпракурор Рыгор Васілевіч, Тозік, Радзькоў, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч, старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра). Сярод іх два акадэмікі (Мясніковіч, Рубінаў).

Чацвёра кандыдатаў навук: Леанід Мальцаў (сацыялагічных), Сяргей Румас (эканамічных), Віктар Галаванаў (юрыдычных), старшыня камітэта па стандартызацыі Валер Карашкоў (тэхнічных). Яшчэ ёсць два дактары навук: старшыня камітэта па навуцы і тэхналогіях Ігар Войтаў (тэхнічных), старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец (медычных).

### Легіянеры

Адзінаццаць чалавек (18%) нарадзіліся за межамі Беларусі. Прычым гэта норма для сілавікоў, якія маюць у Беларусі гіганцкі ўплыў. Ураджэнцамі Украіны з'яўляюцца былы і сённяшні старшыні КДБ Юрый Жадобін (цяпер ён міністр абароны) і Вадзім Зайцаў. У Азербайджане прыйшоў на свет міністр унутраных справаў Анатоль Куляшоў.

Дарэчы, у Расіі нарадзіўся і кіраўнік Службы бяспекі прэзідэнта Андрэй Уцюрын, якога мы, праўда, у нашу сетку 60-ці не ўключалі.

З Кіргізіі паходзіць выканальнік абавязкаў старшыні Нацбанка Юрый Алымаў. У Арменіі нарадзіўся міністр замежных справаў Мартынаў.

З Расіі — намеснік старшыні Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Кабякоў (Масква), міністр інфармацыі Алег Пралякоўскі (Падмаскоўе), міністр працы Мар'яна Шчоткіна (выспа Кілдзін Мурманскай вобласці), міністр па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Вашчанка (Комі), міністр архітэктуры Анатоль Нічкасаў (Навасібірск), старшыня ваеннапрамысловага камітэта Сцяпан Гарулёў (Чыта).

Тым не менш, некаторыя з іх сталелі ўжо ў Беларусі. Так, Куляшоў пачынаў працоўную біяграфію трактарыстам у Чашніцкім раёне, Вашчанка — заточнікам на Магілёўскіх заводах, Кабякоў у Беларусі з трохгадовага ўзросту.

Тым не менш, другой краіны, дзе б у эліце было столькі выхадцаў з іншых краін, няма ў свеце. Гэта паказчык таго, што «савецкім людзям» давяраюць больш, чым «беларусам».

### Вяскоўцаў больш за гараджан

З тых, што нарадзіліся ў Беларусі, 27 вяскоўцаў, 16 чалавек нарадзіліся ў абласных і раённых цэнтрах, яшчэ шасцёра — мінчукі (Сукала, Васілевіч, Харкавец, Латушка, Войтаў, старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька).

Калі браць асобныя цэнтры, то найбольшае прадстаўніцтва барысаўскіх — аж пяць чалавек. Гэта міністр сувязі Мікалай Панцялей, міністр транспарту Іван Шчэрба, Віктар Галаванаў, старшыня камітэта па маёмасці Георгій Кузняцоў, Усевалад Янчэўскі.

Трое з Бабруйска — міністр энергетыкі Аляксандр Азярэц, міністр гандлю Валянцін Чаканаў, старшыня Мытнага камітэта Аляксандр Шпілеўскі.

З адной вёскі Некрашэвічы (Карэліцкі раён) выйшлі кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей і міністр па падатках і зборах Уладзімір Палуян.

З Магілёва — Рубінаў і Снапкоў, з Гомеля — старшыня КДК Аляксандр Якабсон і Сяргей Румас, з Калінкавіцкага раёна — Сямашка і Тозік, з Драгічынскага — міністр аховы здароўя Васіль Жарко і міністр прамысловасці Дзмітрый Кацярыніч.

Па адным прадстаўніку Нясвіжскага, Лёзненскага, Вілейскага, Бялыніцкага, Слонімскага, Капыльскага, Краснапольскага, Клімавіцкага, Быхаўскага, Лідскага, Навагрудскага, Мазырскага, Чэрвенскага, Жыткавіцкага, Шчучынскага, Іўеўскага, Смаргонскага, Асіповіцкага, Лунінецкага, Аршанскага, Рэчыцкага, Любанскага, Ваўкавыскага, Брагінскага, Слуцкага раёнаў.

Цікава, што ў спісе няма ніводнага шклоўскага. Хаця фармальна за шклоўскага можна лічыць віцэ-прэм'ера Валерыя Іванова, які працаваў там у райвыканкаме.

### Магілёўшчына — кузня кадраў

Нягледзячы на паходжанне, важным з'яўляецца факт працы чыноўнікаў, завязваных на імі кантактаў. Дык вось, з Магілёўскай ці Гомельскай вобласці прабіцца ў верхнія эшалоны працей, чым з Гродзеншчыны.

Магілёўскія гарвыканкамы і райвыканкамы працягваюць заставацца галоўнай кузняй кадраў. З Магілёўшчыны рабілі свой кар'ерны рывок Валерый Іваноў, Снапкоў, Радзькоў, Галаванаў, Кацярыніч, Вашчанка, Нічкасаў, Лідзія Ярмошына.

Гомельшчына вывела ў Мінск Якабсона, Кабякова, міністра прыродных рэсурсаў Мікалая Цалко, міністра сельскай гаспадаркі Міхаіла Русага, Алымава.

А вось на Гродзеншчыне свой шлях у эліту пачыналі толькі Маскевіч і Батура.

### Акадэмія кіравання абавязковая

Змены адбыліся сярод самых распаўсюджаных навучальных установаў. Наргас страціў лідарства. Затое на першае месца паднялася Акадэмія кіравання пры прэзідэнце. Гэтая ВНУ за плячыма трынаццаці чалавек. У 2006 дыплом гэтай установы атрымалі Іваноў, Харкавец і Палуян, праз год — Шчоткіна, Кацярыніч і старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пятро Руднік.

У першыя гады незалежнасці, калі ўстанова называлася Акадэміяй кіравання пры Кабінеце міністраў, яе скончылі Румас, Азярэц, Алымаў, старшыня Статыстычнага камітэта Уладзімір Зіноўскі.

Дарэчы, цікавы выпуск быў у 1991 годзе ў Мінскім інстытуце паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Так тады пераназвалі Мінскую вышэйшую партыйную школу. Дык вось, у год развалу СССР дыпломы атрымалі Якабсон, Кабякоў, Чаканаў і Галаванаў.

Што да ВПШ, то яе паспелі скончыць нямногія — Мясніковіч, Андрэйчанка, Русы і Сумар.

Калі браць першую адукацыю, то тут лідзіруе БДУ. У асноўным яго сканчвалі людзі, якія атрымлівалі юрыдычную (Міклашэвіч, Васілевіч, Камянкоў) ці гістарычную адукацыю (Тозік, Латушка).

### З заходняй адукацыяй няма

Наргас скончыла восем чалавек, БНТУ — пяцёра. Можна сказаць, што гэта падзенне рэйтынгу. Два гады таму было 11 і 10 адпаведна. Сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках скончыла пяць чалавек, тэхналагічны — два, ін'яз — адзін (Макей).

Сілавікі ў абсалютнай большасці адукацыю атрымлівалі ў Расіі. Толькі Рачкоўскі — у Латвіі, але яшчэ за савецкім часам. Але на павышэнне курсаў у Маскву генерал-маёр Рачкоўскі не накіроўваўся. Другая адукацыя ў яго эканамічная.

Дарэчы, пару гадоў Макей павучыўся на Захадзе. У 1992-93 ён вучыўся ў Дыпламатычнай акадэміі МЗС Аўстрыі, Пятро Руднік яшчэ за савецкім часам быў на абмене ў Дрэздэне. Людзей новай фармацыі, што атрымлівалі б адукацыю ў Еўропе ці ЗША, у беларускім кіраўніцтве пакуль што няма. Хоць найлепшыя ўніверсітэты свету знаходзяцца менавіта там.

Найпазней за астатніх вышэйшую адукацыю атрымаў Калінін — аж у 34 гады.

Жанчын сярод найвышэйшых чыноўнікаў усяго дзве (3%) — Марыяна Шчоткіна і Лідзія Ярмошына. Раней яшчэ была Наталля Пяткевіч.

Высокае становішча ў дзяржаве мае яшчэ Надзея Ермакова, кіраўніца «Беларусбанка», былая фінансавая работніца са Шклова, але ў нашу сетку 60-ці гэтая пазіцыя не трапляе.

### Сярэдні чыноўнік — Валянцін Чаканаў

Такім чынам, сярэдні беларускі чыноўнік — гэта мужчына 54 гадоў з Магілёўскай вобласці, які скончыў БДУ ці Наргас, а пасля замацаваў веды ў Акадэміі кіравання.

Пад гэтае апісанне ідэальна падходзіць міністр гандлю Валянцін Чаканаў. Чалавек не самы публічны. І гэта таксама ў Беларусі правіла.

**Зміцер Панкавец**



**Сакрэт стабільнасці: Лукашэнка робіць стаўку на тых, хто не будзе кідаць яму выклік. На фота: Аляксандр Якабсон, кіраўнік Дзяржкантролю.**

# Ідэалагічныя дыверсіі і дыверсанты

Працяг са старонкі 1.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Новы праект мінскіх мастакоў-графіцістаў — выявы дзеячаў нацыянальнага руху з'яўляюцца на сталічных вуліцах. Сярод іх і тыя, чые імёны былі забароненыя савецкай цэнзурай.**

## У сцяне былі дзіркі

Цяпер лічыцца, што КПСС, як адзіная ў СССР партыя, была маналітам. Але насамрэч Масква не магла рэгуляваць усё. КПСС падраздзялялася на кампартыі саюзных рэспублік. І тут быў пракол сістэмы. У Беларусі быў свой спіс забаронаў, у Літве — свой, ва Украіне — свой... Калі ў Мінску чалавеку без допуску нельга было і марыць пачытаць дакументы БНР, дык у Вільні іх можна было канспектаваць і капіяваць свабодна. Тое ж і з «забароненымі» ў БССР газетамі, часопісамі, кнігамі...

Што-колечы можна было ўведаць і з бэсэсэраўскіх выданняў 1920-х. Так у БССР склалася група гуманітарыяў, якія ведалі нямала «забароненага» і асмельваліся публікаваць творы аўтараў, на чые імёны савецкая ўлада наклала праклён. Пра ідэалагічных дыверсантаў і іх дыверсіі мой нарыс.

Самым юным чытачам тлумачу: у той час мы яшчэ не чулі пра інтэрнэт, капіявальныя машыны былі адно ў такіх установах, як ЦК КПБ, Савет Міністраў, КГБ, а персанальны камп'ютар я ўпершыню ўбачыў у 1991 годзе.

## Дыверсант-рэцыдывіст Генадзь Кісялёў

Кожнаму студэнту, які марыць стаць акадэмікам, рад-няволя трэба хоць пагартаць кнігу «Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.». Выйшла кніга ў 1977 годзе («развіты сацыялізм», брэжнеўская канстытуцыя!). Уклаў яе Генадзь Кісялёў.

У кнізе ёсць раздзел, прысвечаны Францішку Багушэвічу, а ў раздзеле тэкст — «З успамінаў пляменніцы паэта Ю. Радзевіч і З. Нагродскага». Кожны, хто ўчытаецца ў тэкст, зразумее: гэта не самі ўспаміны, а чыйсьці запіс тых успамінаў. Чыё імя схаваў Г. Кісялёў? Такое пытанне павінны былі задаць укладальніку кнігі яе рэдактары — акадэмік Васіль Барысенка і тады яшчэ кандыдат навук Адам Мальдзіс.

Вось тут і хаваецца інтрыга. Была гэта змова трох філолагаў ці ўсё-такі двух — Г. Кісялёва і А. Мальдзіса? Цяжка дапусціць, каб В. Барысенка і А. Мальдзіс не ведалі, каму насамрэч належыць тэкст. Але В. Барысенка — чалавек, у сталінскую эпоху гартаваны, — наўрад ці мог прапусціць яго, а вось А. Мальдзіс — чалавек «ідэйна няўстойлівы»: у студэнцка-камсамольскую пару быў заўважаны ў касцёле, сустракаўся з Ларысай Геніюш, хваліў у друку яе зборнік... Гэты лёгка мог стаць — пакарыстаемся тагачасным жаргонам — саўдзельнікам ідэалагічнай дыверсіі.

Бо Ю. Радзевіч і З. Нагродскаму Кісялёў прыпісаў фрагменты артыкула Антона Луцкевіча «Жыццё і творчасць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучаснікаў». Імя Луцкевіча — заснавальніка «Нашай Нівы», стваральніка БНР, ідэолага беларускага руху ў пачатку XX стагоддзя,— было пад суровай забаронай у тыя часы.

Змясціўшы яго працу ў «Пачынальніках», Кісялёў адважваецца на наступную ідэалагічную дыверсію. Выпускае кнігу «Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы». Кніга выйшла перад сотымі ўгодкамі Песняра. Дасведчаныя таварышы паказвалі ў гэтай кнізе адну мясцінку і захоплена казалі: «Ну й хітрун Генадзь Васільевіч!».

Гэтая мясцінка — адзін толькі сказ з ліста Уладзіміра Самойлы да Браніслава Эпімах-Шыпілы ад 2 снежня 1909 г. У 1909 годзе малады Янка Купала ў літаральным сэнсе апынуўся на вуліцы. Уладальнік віленскай бібліятэкі-чытальні «Знание» звольніў яго, а ў «Нашай Ніве» паэт атрымліваў за працу па сумяшчальніцтве ўсяго пяць рублёў. Ён кінуўся да Эпімах-Шыпілы, але той не змог дапамагчы. Затое паспрыяў кіраўнік выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» Вацлаў Іваноўскі. Ён даў Купалу прытулак у Піцеры і знайшоў яму працу. Вось пра гэта і паведамляў У. Самойла ў лісце Б. Эпімах-Шыпілу.

На імя В. Іваноўскага ў БССР было накладзена табу. Яго можна было згадваць толькі адмоўна: буржуазны нацыяналіст, паслугач... Таму, апублікаваўшы прозвішча Іваноўскага, Г. Кісялёў зрабіў такую зноску: «Іваноўскі Юрый Леванардавіч — інжынер-тэхнолаг, адзін з заснавальнікаў выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Так імем старэйшага брата (ідэйнага паляка) было прыкрыта імя Вацлава Іваноўскага — ідэйнага беларуса.

## Дыверсант Сяргей Дубавец

Але ж іншы даследчык, Рыгор Семашкевіч, пісаў, што Купалавым дабрадзеем быў не Іваноўскі, а Эпімах-Шыпіла. Папросту немагчыма было за саветамі апублікаваць усю праўду пра пецярбургскі перыяд жыцця Купалы: многія імёны былі пад забаронай, пагатоў імя Іваноўскага, таму на першы план выйшаў палітычна нейтральнейшы Эпімах-Шыпіла.

Рыгор Семашкевіч выкладаў у БДУ. Адным з яго студэнтаў на факультэце журналістыкі быў Сяргей Дубавец. І калі ў 1983 годзе выйшла кніга эсэ і артыкулаў настаўніка «Выпрабаванне любоўю», студэнт узяўся напісаць рэцэнзію для тыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Гэта быў небяспечны тэкст. Я, тады загадчык аддзела крытыкі і бібліяграфіі ў рэдакцыі «ЛіМа», пабойваўся і за сябе, і за рэдакцыю, і за аўтара. Дубавец выкарыстаў кнігу Семашкевіча, каб падаць у савецкім друку імёны Вацлава Ластоўскага і братоў Луцкевічаў без зніштальных характарыстык. Зрэшты, ад мяне залежала мала. Мая справа была падрыхтаваць рэцэнзію да друку, а друкаваць ці не — вырашаў галоўны рэдактар Алесь Жук, які ў складаных выпадках раіўся і са сваім намеснікам Міколам Гілём, і з таварышамі ў «чырвоным доме». Да таго ж Алесь сябраваў з Рыгорам Семашкевічам...

Не ведаю, што сказалі Алесю Жуку пра рэцэнзію ў ЦК КПБ. Затое добра памятаю, як у канцы 1983 года на семінары маладых пісьменнікаў загадчык аддзела культуры ЦК Іван Антановічківаў Дубаўцу пальчыкам: мы не дазволім... А загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Савелій Паўлаў пасля закамандуе адправіць выпускніка журфака БДУ на правінцыю. Дарма што ён ужо меў працу ў выдавецтве «Беларуская савецкая энцыклапедыя». Што ж тычыцца мяне, дык з часам ад Алеся Жука запатрабуюць звольніць «гэтага нацыяналіста» з працы.

## Этногаф і фальклапарыст

Генадзь Кісялёў змясціў у сваёй кнізе фрагменты тэксту Антона Луцкевіча ў 1977 годзе. А праз год ідэалагічную дыверсію ўчыніў навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Кастусь Цвірка. Ага, той самы паэт, перакладчык Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлі і галоўны рэдактар «Беларускага кнігазбору».

Інстытут выпускаў тады шматтомную серыю «Беларуская народная творчасць». У томе «Вяселле: Абрад» К.Цвірка апублікаваў артыкул «Слуцкае вяселле». Зноў-такі, артыкул як артыкул, але вось імя аўтара... Юрка Лістапад. Слуцкі паўстанец, эмігрант, потым галоўны фігурант гучнай палітычнай справы. Нават тэрмін «лістападаўшчына» быў...

Зноў пытанне: а куды глядзелі рэдактары тома — член-карэспандэнт Васіль Бандарчык і доктар філалогіі Анатоль Фядосік? Няўжо случак Бандарчык не чуў пра лістападаўшчыну?

Другі ідэалагічны дыверсант з ІМЭФ выкарыстаў для сваёй акцыі том «Легенды і паданні» (1983). Сустракаем там пад нумарам 282 паданне «Князь Барыс і чорт». У каментары спасылачка: «Крывіч, 1923, № 3, с. 3 —4. Зап[ісана] ад полацкага мешчаніна Тарноўскага». А часопіс «Крывіч» хто выдаваў? І дзе?.. Або вось яшчэ: «Сцяпан і Вялляна». Спасылка на беларускі каляндар на 1919 год «Swajak». А гэты каляндарык хто выпусціў? Ці вось гэтае паданне — «Сож і Дняпро» — хто запісаў?..

Людзі дасведчаныя ўсміхаліся і тлумачылі недасведчаным: гэта тэксты Ластоўскага. Менавіта тэксты. Бо Вацлаў Юстынавіч пачутыя сюжэты легендаў апрацоўваў як літаратар. У кнігу «Легенды і паданні» яго тэксты трапілі дзякуючы аднаму са складальнікаў тома, Антону Гурскаму. А рэдактарам быў ужо знаёмы нам Анатоль Фядосік...

## Не «Тутэйшыя», дык «На куццю»

У 1982 годзе адзначалася 100-годдзе Янкі Купалы. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рэдакцыя крытыкі і драматургіі (вось такое было спалучэнне) рыхтавала да выпуску зборнік. У яго павінна была — пасля дзесяцігоддзяў забароны — трапіць і знакамітая п'еса Песняра «Тутэйшыя». І калі здавалася, што зборнік мінуў усе рагаткі, раптам раздаўся сігнал: стоп! Дарма загадчыца рэдакцыі Вера Палтаран адстойвала зборнік, дарма дырэктар выдавецтва Міхась Дубянецкі абіваў парогі інстанцый. Забарона была катэгарычная.

Але пакуль інстанцыі змагаліся з «Мастацкай літаратурай», супрацоўнік рэдакцыі крытыкі і драматургіі Алесь Разанаў уклаў зборнік Янкі Купалы «Выйдзі з сэрцам, як з паходняй!..». Прадмову да кнігі напісаў Анатоль Вярцінскі. А выдала яе «Юнацтва».

Укладальнік змясціў там усяго некалькі вершаў «савецкага» Купалы. Затое ў кнігу трапіла паэма «На Куццю». Яе, як і п'есу «Тутэйшыя», цягам дзесяцігоддзяў забараnялі друкаваць.

## І Сцяпан Александровіч?

Увесну 1984 года ў рэдакцыю «ЛіМа» завітаў шаноўны госць — Сцяпан Хусейнавіч Александровіч. Прынёс машынапіс артыкула «Невядомая беларуская кніга».

Рыхтаваўся зводны каталог «Кніга Беларусі, 1517 —1917». І вось у спратах знайшлі надрукаваную яшчэ ў 1912 годзе ў Пінску кніжачку нейкага Арцёма Музыкі «Прыгоды Тараса і Панаса». Пра яе і напісаў Сцяпан Хусейнавіч.

Прафесар Александровіч адзначыў багатую лексіку апавядання, жывы, дынамічны стыль і паставіў пытанне: хто аўтар гэтага твора? І выказваў такую здагадку: «Арцём Музыка — гэта, бясспрэчна, псеўданім нейкага... здольнага беларускага пісьменніка, які добра валодаў пяром і... не ўпершыню выступаў у друку». Літаратуразнаўца гатовы быў бы прызнаць аўтарам кніжкі Якуба Коласа, але...

Праз колькі дзён пасля публікацыі ў рэдакцыю «ЛіМа» завітаў другі шаноўны госць — Адам Мальдзіс. Ён пахваліў публікацыю Сцяпана Хусейнавіча і таксама задаў пытанне: хто ж аўтар гэтае кніжачкі? Я меў адказ: «Пан ведае прозвішча гэтага аўтара, бо пану вядомы іншы яго псеўданім — Власт». Адам Восіпавіч на момант сумеўся. «Пан упэўнены ў гэтым?» — «Як у тым, што цяпер на дварэ божы дзень».

Пра тое, што аўтар «Прыгодаў Тараса і Панаса» — Вацлаў Ластоўскі, яшчэ да публікацыі артыкула Александровіча сказаў мне Дубавец. Ён чытаў гэтую маленькую аповесць у мюнхенскім выданні твораў Ластоўскага (1956), якое кантрабандаю трапіла ў БССР.

...У 1986 годзе зводны каталог «Кніга Беларусі» выйшаў з друку. У ім няма нават згадкі пра «Кароткую гісторыю Беларусі», выдадзеную ў 1910 г. пад шмат каму вядомым псеўданімам «Власт», але затое паказаныя «Прыгоды Тараса і Панаса», бо складальнікам каталогу быў невядомы псеўданім «Арцём Музыка».

## Калі не праз дзверы, дык праз акно

1987 год. Другі год гарабчоўскай перабудовы. У Мінску пошапкі: дазволяць ці не? А праз нейкі час пранеслася: не дазволілі!..

ЦК КПБ не дазволіў вечарынай, а хоць нейкім артыкульчыкам адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння Алеся Гаруна.

Бедны Гарун! У канцы 1940-х Міхась Ларчанка спрабаваў яго рэабілітаваць. Не ўдалося. Дык жа тое было за жывым Сталіным, а цяпер нібыта ад Сталіна адмаўляюцца... Ну, гэта ў Маскве, а тут, у Мінску, яшчэ замаразкі, ідэалогіяй па-ранейшаму кіруюць Савелій Паўлаў ды Іван Антановіч. Яны вырашаюць, дазволіць ці не.

І вось аднаго дня ў мяне раздаўся званок: «Ты чытаў «Литературку»?

Маскоўская «Литературная газета» 8 красавіка 1987 г. мела сярод беларускай інтэлігенцыі вялікі поспех. Нягледзячы на забарону ЦК КПБ, Вячаслаў Рагойша апублікаваў у ёй артыкул «Судьба поэта: К столетию со дня рождения Алеся Гаруна», а пад артыкулам — у перакладзе Браніслава Спрынчана (!) — тры вершы Гаруна. Малайчына Рагойша, малайчына Спрынчан, — казалі адны, а іншыя дадавалі: малайчына Анатоль Казловіч. Бо за публікацыяй стаяла і невідочная чытачам постаць тагачаснага карэспандэнта «Литературной газеты» ў Беларусі.

Вось і маеце, грамадзяне з «чырвонага дома»: не хацелі пускаць Гаруна праз дзверы, дык ён вярнуўся праз акно.

З гэтае публікацыі і пачалося адкрытае вяртанне «забароненых» імёнаў і твораў.

# Соўл, наркотыкі, смерць у 27



**Вялікая спявачка Эмі Уайнхаўс не змагла перамагчы залежнасць.**

Эмі Уайнхаўз знайшлі мёртвай у суботу ў сваім доме, у лонданскім Кэмдэне. Ёй было 27 гадоў. Прычына смерці пакуль не называецца, хаця неафіцыйна кажуць пра перадазіроўку наркотыкаў.

Яе лічылі адной з найлепшых выканаўцаў сучаснага соўлу. Першы альбом Frank, які выйшаў у 2003 годзе, быў «свежым паветрам» у тагачаснай музыцы — Уайнхаўз выконвала поп-музыку, але з налётам джазу і соўлу. Так спрабавалі спяваць многія, але толькі Эмі гэта ўдавалася ідэальна. Яна мела бездакорны густ. Нават выглядала Уайнхаўз так, быццам на двары не 2003, а 1963 год, і яна — удзельніца легендарных The Ronettes. Эмі раптоўна, без асаблівага напружання, зрабіла соўл-музыку, якую пачалі лічыць музыкай мінулага, папулярнай і моднай. Прычым звыклай для поп-музыкі пошласці ў яе творчасці не было.

Першы альбом набыў плацінавы статус, прэстыжныя ўзнагароды сыпаліся на маладую спявачку адна за адной, для яе адкрыліся пляцоўкі такіх значных фестываляў, як Гластнберы і джаз-фестываль у Мантрэі.

Спявачка метадычна адназўляла традыцыі жаночых поп-гуртоў 1950-60-х. І выявілася, што па іх музыцы сумавала Еўропа. Слава Уайнхаўз стала міжнароднай.

Другі альбом Back to Black стаў у Вялікабрытаніі самым прадаваным альбомам 2007 года — 1,85 мільёна дыскаў.

Аднак жыццё Уайнхаўз выглядала змрочна — праблемы са спіртным вымушалі яе рэгулярна адмяняць канцэрты і нават класціся ў клініку, лячыцца ад алкагалізму. Не абышлося і без наркотыкаў. Непрыемнасці з законам сталі звыклай з'явай у яе жыцці: то яе арыштоўваюць з марыхуанай, то яна ўчыніла бойку з фатографам. Дактары знайшлі ў яе хваробу лёгкіх — ад курэння і бясконцага ўжывання какаіну.

Гэтым летам мэнэджары Уайнхаўз былі вымушаныя адмяніць шэраг канцэртаў — на сербскім шоу Эмі была заўважна п'янай, не трапляла ў ноты, з цяжкасцю трымалася на нагах і ўвесь час імкнулася сысці са сцэны. Гледачы, натуральна, абсвісталі.

23 ліпеня Эмі Уайнхаўз памерла. 20 верасня, выйдзе яе апошні прыжыццёвы запіс — дуэт з вялікім поп-спеваком Тоні Бэнэтам.

Даведаўшыся, што спявачка мае праблемы са здароўем, крытыкі паўжартам пісалі, што галоўнае для яе — перажыць узрост 27 гадоў: менавіта гэты ўзрост лічыцца «крытычным» для музыкаў — на ўвазе маецца так званы «Клуб 27». Містыка: ва ўзросце 27 гадоў памёр вялікі блюзмэн Роберт Джонсан (атручаны мужам сваёй каханкі). У тым жа ўзросце патануў у басейне гітарыст The Rolling Stones Браян Джонс. Ад наркотыкаў памерлі і трое асноўных герояў 60-х: Джым Морысан, Джымі Хендрыкс і Джаніс Джоплін. Ва ўзросце 27 гадоў застрэліўся лідар гурта Nirvana Курт Кабэйн.

Эмі Уайнхаўз далучылася да гэтай групы — не толькі праз узрост, але і паводле значнасці для сусветнай музыкі.

**Юрась Ускоў**



**На свяце песні і паэзіі «Ракуцёўскае лета-2011» міністр культуры Павел Латушка станчыў кракавяк. Свята адбылося ў фальварку Ракуцёўшчына. Яно праводзіцца штогод пад Маладзечнам. У 1911 г. тут улетку жыў Максім Багдановіч.**

# Басовішча-2011: без гран-пры, але з пераможцамі

**Легендарны рок-фестываль праводзяць беларусы Польшчы.**

Тыя, хто ездзіў на «Басовішча» ў 90-я, ставяцца да сучаснага фэсту скептычна. Тыя ж, хто адкрыў для сябе фестываль у Гарадку, што пад Беластокам, нядаўна, вяртаюцца ў захапленні — легенда як-ніяк.

Сёлета да арганізатараў «Басоў» набралося пытанняў больш, чым звычайна: ад візаў за палову цаны (замест бясплатных) да адсутнасці культавых гуртоў кшталту «Крамы», якія праз «чорны спіс» у Беларусі не выступаюць. Праўда, зусім без класікі не абышлося — «Нейра Дзюбель» і IQ48 да фэсту дабраліся.

Гран-пры, пасля спрэчак журы, не далі нікому, аднак прызначылі пераможцаў — гурт Yellow Power.

Грамадзянаў Беларусі на фэсце было менш, чым звычайна — усё ж такі дакументы на візу давялося здаваць у апошні момант. Паспелі не ўсе, а некаторыя і перадумалі. Аднак тыя, хто даехаў, вярнуліся задаволеныя. Асноўная памылка ў дачыненні да «Басовішча» — выкарыстанне катэгорыі «тое» ці «не тое». Яго можна толькі прымаць такім, якім яно ёсць. Фестываль не можа заставацца аднолькавым цягам дваццаці гадоў.

**ЮУ**



EURORADIO.FM

# Чорны спіс і залаты спіс

**Вайцюшкевічу не далі выступіць на свой юбілей, а Дарафеевай аблвыканкам арганізуе продаж квіткоў.**

20 ліпеня на сваё 40-годдзе музыка Зміцер Вайцюшкевіч збіраўся даць канцэрт «Аб часе і аб сабе» ў ДК ветэранаў. Аднак за два дні да канцэрту там вырашылі «правесці рамонт». Прыкладна на такіх самых падставах арганізатарам адмовілі паўсюль, дзе яны спрабавалі зладзіць выступ. Магчыма, прычына шквалу рамонтаў у публічных месцах Мінска — тое, што Вайцюшкевіч знаходзіцца ў негалосным «чорным спісе» музыкаў, якіх забаронена пускаць у эфір і на вялікія пляцоўкі.

Але ёсць, відаць, і белыя спісы. Або залатыя. Білеты на канцэрты іх фігурантаў пашыраюць з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу. У тыя самыя дні ў «НН» трапіла копія ліста з Брэсцкага гарвыканкама дырэктару аднаго з прадпрыемстваў Брэста. У выкананне даручэння старшыні Брэсцкага аблвыканкама «Аб спрыянні ў правядзенні канцэртаў Ірыны Дарафеевай» (ёсць, аказваецца, такое даручэнне) дырэктара прадпрыемства просяць «набыць білеты для супрацоўнікаў». Галоўная афіцыйная поп-дзіва Ірына Дарафеева выступіць у Брэсце 28 ліпеня ў рамках туру «Заўжды разам са сваім народам!».

**СП**

**«Наша Ніва» віншуе Змітра з народзінамі і жадае яму плёну ў творчасці, сямейнага шчасця, здароўя і дабрабыту.**





### Сцісла

• **Памёр мастак Люсьен Фрэйд.** Адзін з выбітных мастакоў сучаснасці памёр ва ўзросце 88 гадоў. Ён быў унукам заснавальніка псіхааналізу Зігмунда Фрэйда. Пасля прыходу да ўлады Гітлера яго сям'я пераехала ў Вялікабрытанію.

• **«Свабодны тэатр» распачаў серыю выступаў у Лондане.** У тэатры Almeida артысты прадставілі спектакль «Eurepica. Challenge». Перад прадстаўленнем кіраўнік тэатра Мікалай Халезін зрабіў невялікую прамову. У фае тэатра ў гэты самы час праходзіць фотавыстава партрэтаў сваякоў палітвязняў фатографа Андрэя Дубініна. «Свабодны тэатр» даў у Лондане шэсць спектакляў.

**Па Чачотавых мясцінах.** 24 ліпеня баранавіцкія сябры Таварыства беларускай мовы адзначылі 215-я ўгодкі філамата Яна Чачота. Удзельнікі вандроўкі наведалі вёску Новая Мыш (Баранавіцкі раён), дзе стаіць помнік паэту. Пабывалі яны і ў Крывошыне (Ляхавіцкі раён). Там у фальварку Рэпіхава прайшлі дзіцячыя гады Янкі. Што цікава, райвыканкам забараніў зладзіць у Новай Мышы святочную імпрэзу. Спаслаўся, што арганізатары «не падалі заяўку на масавае мерапрыемства».

**АЧ, Віктар Сырыца**

# Чалавек на Месяцы

**Павал Касцюкевіч.**
Апавяданне.

Дапусцім, сусветнавядомы хімік Барыс Кіт не вынайшаў свайго цудпаліва для касмічных ракетаў. Не нарадзіўся на гэты свет увогуле ці пайшоў іншым прафесійным шляхам: напрыклад, гандляваў кактусавай расадай ці распрацоўваў бензапілкі для пазногцяў — няважна. Ці паднялася б касмічная ракета ў паветра пры такіх умовах? Бо ў чалавецтва і без хіміка Кіта нешта-нейкае было: бензін, газа, салярка. Сякія-такія радовішчы вугалю або торфу. Таму варта дапусціць, што касмічны карабель — хай сабе нехлямяжа, з дрыжыкамі, але ўсё ж уздымаецца, і — можа, не так шпарка, як хацелася, — аднак ляціць. Так, вядома: на кожныя сто кіламетраў у яго выдаткоўваецца на якія дзве тоны літраў паліва больш, і на другую ступень ён пераходзіць не адразу, а толькі мінуўшы якую-небудзь стратасферу. Аднак далібог, зоркі пакрысе бліжэюць.

Пойдзем далей: дапусцім, людзі не вынайшлі тытанавых сплаваў — дык навалам алюмінію, чыгуну ўрэшце. Так, няма гэтых бліскучых тумблераў з проціўдарным шклом, нікеляваных пускачоў і яркіх чырвоных кнопак. Аднак, з лёгкасцю перабудзем без пластыку ды іншых зіхоткіх збыткоўнасцяў. Згода: касмічны карабель пачынае нагадваць шараговы аўтамабіль — хіба нестандартны памерамі, — што імчыцца па вертыкалі, у якім тваю хуткасць і ўсё астатняе паказваюць не камп'ютарныя датчыкі, а звычайныя спідометры і механічныя паказчыкі ўзроўню алівы.

Прапала кароўка, дык хай сабе і вяроўка: ежа касманаўта таксама зрабілася звычайнай. Так знікла адчуванне свята: у пілота больш няма ўсведамлення, што ён абранец чалавечага роду. Бо ж род мусіць карміць свайго абранца з цюбікаў, з якіх простыя, неўганараваныя людзі зазвычай выціскаюць зубную пасту. Не, ну вядомая рэч: каб перад стартам ракеты матка прынесла сынку, касмічнаму пілоту, каструльку цяфцелек — не будзе такога. Маем спецыяльную кансерву, скажам, «Сняданак касманаўта». І кансаровы нож, на дзяржальне якога памайстэрску выгравіраваныя дробныя заркалёт і сонца. Такі ахайны прыемны заркалёцік і файненькае сонейка. Яны і даюць нашаму касманаўту адчуванне абранасці: хай сабе на нейкім сваім, не дужа высокім, лакальным узроўні.

Дапусцім, я сустрэў не цябе, а іншую жанчыну. Бо, бачыш, нават без цябе ў мяне яўна маглі быць сякія-такія варыянты. Яна амаль як ты, нішто сабе такая. Яна, можа, не надта эфектная, але вельмі эфектыўная. І ўсе сябры, якія бачаць нас разам, пагаджаюцца: я зрабіў слушны выбар. Калі мы з ёй няспешна ідзем па вуліцы, на нас заўжды азіраюцца — мы, можа, не самая прыгожая пара, але дужа гарманічная. Ці, хутчэй, азіраюцца на нашых дзетак. Так, я забыўся: у мяне нарадзіліся ад яе дзеці-анёлы, якія ўвогуле па-за паскудствамі дарослых разбораў.

Усё, усё ў норме — я ж увогуле не ведаю, што ты існуеш. І ў нас не адбылося гэтага пякучага расстання, бо не было сустрэчы. Усё нармальна: я, бадай, ніколі не плачу ад любасці, калі гляджу на спячую жонку.

Дапусцім, што касмічны карабель — усё гэтае прадпрыемства з кансаровымі бляшанкамі і роварнымі насосамі для напампоўкі свежага паветра — так-сяк адарвалася ад зямнога прыцягнення і цяпер мае на мэце скарыць Месяц.

Усё шэрае, грувасткае. Тушаніна з кансароўкі вытрыбушылася і дурным метэарытам лунае ў бязважкасці, а тлушч бязлітасна пэцкае абабітыя вагонкай сценкі карабля і касманаўцкае трыко. Рухавік люта дрыгціць — ажно ў зямляніна займае сэрца. Учапіўшыся ў чорную абаранку руля, касманаўт абліваецца потам і агаляе торс, бо карабель, пазбаўлены нявынайдзеных кандыцыянераў, распаліўся да белага. Праз недасканаласць замкоў — яны навясныя — працяклі шлюзы, і ў задніх адсеках плёхаецца адкрыты космас... Аднак па вялікім рахунку, жыць, а дакладней ляцець, можна.

Дапусцім, ты на нейкім этапе таксама знаёмішся з іншым хлопцам: паўгода вы сустракаецеся, яшчэ год жывяце разам і ўрэшце жэніцеся. Ён станоўчы чалавек, у меру прыгожы, можа, і не да канца табе падабаецца, але — ат, сыдзе. Табе з ім някепска, спакойна. Калі б я сустрэў яго на вуліцы, дык абавязкова забіў бы, ці, прынамсі, зламаў нос. Але я і думаць не думаю пра яго — як, дарэчы, і пра цябе — бо мы ж адно аднаму чужыя людзі.

І вось на сваім недасканалым караблі касманаўт да Месяца дапяў. І ён ужо гатовы расчыніць нагою шлюз, каб выйсці на паверхню, як раптам яму прыходзіць да галавы, што здзейсніць гэта няма ў чым. Памятаеце, мы ж сказалі, што ў нашым караблі ўсё будзе трошачкі горш, на ўзровень ніжэй? Дык вось, у гэтай трохі горшай рэальнасці адпраўшчыкі касмічнага карабля забыліся вынайсці скафандр. Ну, ясная рэч, у іх было столькі праблемаў: з тарфяным палівам ды з іншымі нягеглымі прыстасаваннямі. І за гэтымі ўвіханнямі і змарнаваным імпэтам яны забыліся на вынаходніцтва такога, па сутнасці, простага аксэсуара, як герметычны скафандр. Рукі не дашлі да рэчы, без якой скарыць Месяц нязручна і недарэчна.

У давяршэнне няшчасцяў, у баках скончылася звычайнае паліва, якога выдаткоўвалася ўдвая больш, чым таго, якое мог бы вынайсці Барыс Кіт. Далёт назад яўна адмяняецца.

Дапусцім, неяк пасярод усяго гэтага майго жыцця я сустракаю цябе. На вуліцы, у чарзе, у Навагрудку, у Нью-Ёрку, на любой нічыёй тэрыторыі, поўнай ідэальна чужых людзей. Яны ідуць насустрач няспыннай масай, а абапал ходніка кішаць машынамі драпежная Сцыла дарогі і навісаюць Харыбдай шэрыя хмарачосы.Так, ведаеш, найхутчэй у Нью-Ёрку.

Я ўбачыў цябе — і мяне прашывае нейкая такая бліскавіца, аднак я не паруплюся нічога зрабіць: я спісваю сваё захапленне табою на алкаголь, які я толькі што ўжыў у слановых дозах, ці на сваю творчую экзальтаваную натуру, пра якую пры любым няўдалым павароце майго жыцця заўсёды любяць нагадваць мае сябры. Ты таксама пазіраеш на мяне і хочаш пазнаёміцца, але і сама не дужа ведаеш, што трэба сказаць мне, за што зачапіцца.

Ратунку няма. Сумота касманаўта ў захраслым на Месяцы міжпланетным тарантасе не падобная ні да чога. І нават не будзем параўноўваць яе з кінамі пра сапсаваныя падлодкі, дзе экіпаж цэлы фільм чакае ўратавання і на экране паказваюць, як праяўляюцца іх найлепшыя пачуцці: спагада, лагода, чуллівасць. У процівагу падводнікам, касманаўт адзін і ніхто не збіраецца здымаць яго на кінастужку. Ён беспрытульна гойсае па адсеках, між чатырох сценаў, усё роўна як шукаючы іншых чальцоў экіпажу, у якіх ён змог бы паплакаць на плячы ці прынамсі паказаць фотку сям'і. Усё астатняе таксама не на карысць параўнання захраслага на Месяцы карабля з загрузлай на дне акіяна падлодкай: ні табе рыбаў, якіх можна праз ілюмінатар убачыць, ні тарпеды, якую можна пусціць дзеля спагнання сляпой злосці. Раз-пораз касманаўт блямкаецца лабацінай аб чыгунныя сценкі ракеты і раз'ятрана пляжыць нагамі катамаранныя педалі ў кабіне пілота.

Адно добра — радыё на Месяцы хоць і не вельмі, але працуе. Яго ж для чалавецтва вынаходзілі двойчы: італьянец Марконі і расіец Папоў. Хоць тут пашэнціла. Касманаўт дасылае на Зямлю паведамленне: так і так, дастаўце, калі ласка, на Месяц паліва і скафандр...

Адпраўшчыкі ракеты на Зямлі ў недалікатнай манеры, уласцівай гэтай недасканалай версіі быцця, адпраўляюць касманаўта яшчэ далей, бо другога касмічнага карабля няма і гадоў -наццаць не будзе — абсалютна ўсе сілы чалавецтва былі кінутыя на першы. Больш за тое: ім няясна, як касманаўт увогуле не дапяў да Месяца, бо праз недасканалыя дасягненні нашай цывілізацыі ад яго чакалі ну максімум пары віткоў вакол Зямлі і якога траўматычнага звароту напаследак. Што да скафандра — яны ўвогуле не ў курсе, што значыць гэтае слова.

І не ведаем, ці варта дабіваць касманаўта звесткамі пра адсутнасць флікераў. У крыху горшым свеце апошнія хвіліны касманаўта будуць азмрочаныя ў простым сэнсе гэтага слова: ён будзе пазбаўлены нават гэтай дробнай асалоды — у сваёй нікчэмнай бляшанцы-караблі любавацца адлюстраваным бляскам зорак.

І вось мне і табе, якія ўчэпіста ўперыліся адно ў аднаго позіркамі на нью-ёркскай вуліцы, наспявае час размінуцца, як усім незнаёмым людзям. І ў самую гэтую хвілю старэчы голас з усходнееўрапейскім акцэнтам гучна прапануе нам купіць расаду для кактусаў. Я запавольваю крок: на хісткім століку вулічнага дзівака стракацяць усё-ўсялякае: тэлефонныя слухаўкі з уштукаванымі ў іх невялічкімі тэлевізійнымі экранамі, мініяцюрныя печкі, што паляцца шчэпкамі і могуць змясціць усярэдзіне дробныя бутэрброды ці невялікую талерку катлетаў. Ты таксама падышла і пасміхаешся, гатовая рассмяяцца. Мы зноў побач. Я ліхаманкава шукаю вачыма, за што б зачапіцца на дзядоўскім стале, каб разгаварыцца, але нічога такога, пра што можна спытаць. «Божа, хоць што-небудзь!» — прашу я ў думках. Але адзінае, што мне ўдаецца прыдумаць, гэта ўдавана гучным, разлічаным на публіку тонам спытацца: «А можа, у вас яшчэ, дзеду, і бензапіла для пазногцяў ёсць?» «Ну так, якраз днямі вынайшаў!» — адказвае ўсходнееўрапейскі дзядок і да майго здзіўлення і радасці выграбае са свайго зборнага майна мініяцюрную скрыначку, якая чымсьці нагадвае гільяціну для пальцаў. Твае вочы шырока расплюшчваюцца, як у дзяўчынкі, якая толькі што ўбачыла фокус. Ты шчыра рагочаш і нечакана па-сяброўску ляпаеш мяне па плячы. Мы нарэшце пазіраем твар у твар, вочы ў вочы, а ты падаеш руку і сур'ёзна кажаш: «Воля».

Тым часам касманаўт пры поўным парадзе — без скафандра, але ў блакітнай лётчыцкай пілотцы і трыко, з голым торсам і кансаровым нажом у кішэні — робіць свой першы, яўна не самы дасканалы, крок па Месяцы.

## Кніга Эдгара По ўпершыню выйшла па-беларуску — выдатныя пераклады

Зборнік «Маска Чырвонае Смерці» склалі проза, паэзія і эсэістыка пісьменніка. Пра выданне расказваюць яго рэдактары і перакладчыкі По **Ганна Янкута** і **Кацярына Маціеўская**.

**«НН»: Том Эдгара По — чарговы ў серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» і першы — у выдавецкай серыі часопіса «ПрайдзіСвет». Чаму пачалі менавіта з гэтага амерыканца?**

**Кацярына:** Кніга рыхтавалася даўно. Укладальнік Андрэй Хадановіч пачаў шукаць перакладчыкаў і матэрыял яшчэ тры гады таму, каб том выйшаў у стогадовы юбілей По (2009). Але якасць запатрабавала больш часу, пра што, думаю, ніхто не шкадуе.

**Ганна:** У нашай сітуацыі Эдгар По — аўтар вельмі зручны. Зборнік «Маска Чырвонае смерці» складаецца з самых розных апавяданняў, вершаў, эсэ. Многія перакладчыкі, якім прапаноўвалася ўзяць удзел у працы, лёгка маглі знайсці штосьці на свой густ. Хочаш — смешнае апавяданне, хочаш — страшнае, хочаш — рамантычная паэма, хочаш — лёгкі альбомны верш. Дзякуючы такой разнастайнасці ўдалося залучыць многіх. Асобныя творы По перакладаліся раней Сяргеем Шупам, Уладзімірам Шчасным, Юрасём Бушляковым, Алегам Мінкіным, Андрэем Хадановічам. Так і атрымаўся зборнік выбранага.

**Эдгар По**

1809-1849 — амерыканскі пісьменнік. Дэбютаваў у паэзіі, а пасля пачаў пісаць і прозу. Быў адным з першых амерыканскіх аўтараў, хто стварыў свае творы ў выглядзе кароткіх апавяданняў. Лічыцца стваральнікам дэтэктыўна-фантастычнага жанру ў літаратуры. Аўтар кніг «Рукапіс, знойдзены ў бутэльцы», «Крумкач і іншыя вершы» і інш.

**«НН»: Творы для кнігі перакладалі 19 сучасных аўтараў. У савецкія часы, спрыяльныя для перакладаў замежнай класікі, ніхто не звяртаўся да спадчыны По?**

**Ганна:** Думаю, да По не звярталіся з той самай прычыны, з якой амаль не звярталіся і да Уайлда, Кітса, Гофмана, Расіна, Леапардзі... Адбор часта рабіўся паводле крытэраў хутчэй ідэалагічных, чым літаратурных.

**Кацярына:** Мабыць, за савецкім часам По быў не самым пажаданым аўтарам. Да таго ж, тады нашмат шырэйшай была сумная тэндэнцыя перакладаў не з мовы арыгіналу, а з расійскай, што робіць немагчымым перадрук многіх перакладных тэкстаў той эпохі цяпер.

**«НН»: Эдгар По — рамантык першай паловы XIX стагоддзя. Чаму варта перакладаць класікаў, а не сучасных пісьменнікаў? Не менш таленавітых і значна бліжэйшых па духу сённяшняму чытачу.**

**Ганна:** Перакладаць варта добрую літаратуру, а будзе яна класічнай ці сучаснай — гэта справа прыхільнасцяў перакладчыка і запатрабаванасці сярод выдаўцоў. Залаты фонд неабходны хаця б для таго, каб гэтымі перакладамі маглі карыстацца школьнікі, студэнты, навукоўцы. Апроч таго, сучасная літаратура часам патрабуе дадатковае рэкламы — з'яўляецца новы аўтар, але ніхто не ведае, які ён цудоўны. Класіка — варыянт бяспройгрышны. Усе ведаюць, хто такі Эдгар По і чаму любы адукаваны чалавек мусіць яго чытаць.

**«НН»: Першы том серыі выйшаў. Наступны рыхтуецца?**

**Кацярына:** Так. Спадзяёмся, хутка будзе гатовы зборнік гатычных апавяданняў Чарлза Дыкенса і апавяданні Артура Конана Дойла пра Шэрлака Холмса.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**



Маска Чырвонае Смерці / Эдгар По; Выбраныя навелы, вершы, эсэ / Пераклад з англійскай. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 472 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).

# Адкрыты ці закрыты?

## Якім будзе суд над падазраванымі ў тэракце ў метро?

Генпракурор назваў прозвішчы абвінавачаных — Канавалаў і Кавалёў.

14 ліпеня абвінавачаныя ў выбуху ў мінскім метро пачалі знаёміцца з матэрыяламі справы. Такім чынам, гэта здарылася праз тры месяцы пасля тэракта. Пра гэта паведаміў журналістам генеральны пракурор Рыгор Васілевіч. Таксама генпракурор назваў прозвішчы падазраваных. Сенсацыі ён не зрабіў — прозвішчы і раней з'яўляліся ў інтэрнэце. Толькі што раней іх згадка магла лічыцца «разгалошваннем матэрыялаў следства» і цягнуць за сабой карныя санкцыі супраць выдання. Генпракурор зазначыў, што абодва падазраваныя былі ў Мінску ў дзень тэракта.

Згодна з законам на азнаямленне з крымінальнай справай даецца месяц.

Працэс над імі, хутчэй за ўсё, будзе адкрытым, але канчатковае рашэнне наконт гэтага прыме суд, сказаў генпракурор.

Следства падазрае Кавалёва і Канавалава таксама ў датычнасці да ранейшых тэрактаў у Віцебску і Мінску. Васілевіч адзначыў, што выявіць гэтых маладых людзей можна было і раней, па адбітках пальцаў. Але ў базе іх не аказалася. Прынамсі адзін з падазраваных у 2009 годзе быў прызваны ў войска і праходзіў дактыласкапію. І цяпер заведзеная крымінальная справа на супрацоўніка, які тыя адбіткі пальцаў згубіў.

11 красавіка ў метро загінулі 15 чалавек, больш за 160 было паранена.

**Сяргей Мікулевіч**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Паранены Вадзім Цюцюноў толькі на тым тыдні выйшаў з бальніцы. 11 красавіка ён апынуўся побач з эпіцэнтрам выбуху. У выніку атрымаў шматлікія пераломы ног і асколачныя раны. Лячылі яго ў Рэспубліканскім шпіталі МУС. Як толькі Вадзім Мікалаевіч змог самастойна перасоўвацца, ён панёс кветкі да «Кастрычніцкай».**

## У маскоўскім метро каўказец падстрэліў трох беларусаў

Інцыдэнт адбыўся 23 ліпеня каля 22.00 на станцыі метро «Ахотны Рад». 26-гадовы жыхар Растоўскай вобласці, ураджэнец Паўночнага Каўказа, уступіў у канфлікт з трыма грамадзянамі Беларусі і пасля слоўнай сваркі адкрыў па іх агонь з траўматычнага пісталета «Макарыч». У выніку 28-гадовы грамадзянін Беларусі атрымаў раненне ніжняй сківіцы, 27-гадовы беларус — раненне жывата, яго 19-гадовы брат паранены ў галаву.

Тры пацярпелыя знаходзяцца ў бальніцы, пагрозы іх жыццю няма.

Малады чалавек, які страляў, затрыманы на месцы здарэння. Супраць яго распачата справа за наўмыснае нанясенне цяжкай шкоды здароўю. Яму пагражае да васьмі гадоў пазбаўлення волі.

Дазвол на карыстанне траўматычнай зброяй ён меў. Толькі, кажуць відавочцы, выкарыстаў яе не ў мэтах самаабароны.

Газавыя пісталеты «Макарыч» робяць у Іжэўску (Расія). На выгляд гэта копія баявога пісталета Макарава, але яго ствол сканструяваны так, што страляць з «Макарыча» можна толькі гумовымі кулямі.

«Разборкі», у тым ліку міжэтнічныя, з дапамогай траўматычнай зброі — частая з'ява ў Расіі.

**СМ**



## Абвалілася АЭС, паводле праекта якой маюць будаваць беларускую

На 2-й Ленінградскай АЭС (ЛАЭС-2), якая будуецца ў Сасновым Бары пад Пецярбургам, паваліліся металаканструкцыі. Гэта здарылася на будпляцоўцы першага энергаблока. На шчасце, ніхто не загінуў і не пацярпеў, але інцыдэнт выявіў сур'ёзны брак і парушэнні тэхналагічнага працэсу.

Расійская «Новая газета», публікуючы ў пятніцу фота абваленай металічнай сеткі, схільная бачыць катастрафічныя наступствы. Выданне сумняецца ў надзейнасці будучага атамнага аб'екта.

Да гэтага часу з такімі ляпамі пры будаўніцтве сцен атамных блокаў у Расіі і СССР яшчэ не сутыкаліся, паказваюць аўтары артыкула. У савецкія часы за ўзвядзеннем ядзерных аб'ектаў сачыла мноства кантралюючых арганізацый. Непрафесіяналізм проста не дапускаўся.

Цікава, што менавіта паводле праекта Ленінградскай збіраюцца будаваць беларускую АЭС пад Астраўцом. І будаваць будзе тая ж самая карпарацыя, што і ЛАЭС-2 — «Расатам».

**СГ**

### Сцісла

• **Пад Лагойскам загінуў удзельнік байк-фестывалю.** ДТЗ адбылося на 30-м кіламетры трасы Мінск — Віцебск. Кіроўца «БМВ» пры развароце налева не саступіў дарогу матацыклу «Судзукі». Ад атрыманых траўмаў матацykліст памёр на месцы. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, матацыкліст жыў у Мінску, у яго засталіся жонка і дзіця.

• **Мінчанін задушыў дачку, а пасля забіў сябе.** Мінчанін 1948 года нараджэння задушыў 32-гадовую дачку і забіў сябе. Праваахоўнікі высветлілі, што забітая апошнім часам злоўжывала спіртным, паміж бацькам і дачкой узнікалі канфлікты. У той дзень дачка зноў вярнулася дадому нецвярозая. Раз'юшаны мужчына пачаў яе душыць. Пасля ён сам прыйшоў у міліцыю. Распавёўшы, што адбылося, мужчына паскардзіўся, што яму душна і папрасіў адчыніць акно. А праз некалькі хвілін, падгадаўшы момант, кінуўся да акна і выскачыў з трэцяга паверха.

• **Вёску пад Гроднам заліло фекаліямі.** Новую каналізацыю ў Падлабенні прарвала так, што двары, гаражы і падвалы вяскоўцаў патанулі ў брудзе і фекаліях. Цяпер людзі вымушаныя дыхаць смуродам, піша «Вячэрні Гродна». Каналізацыйна-помпавая станцыя ў вёсцы прапрацавала ўсяго некалькі месяцаў.

• **У Мінску затрыманыя валютчыкі з Ірана.** Групу валютчыкаў, якая складалася з грамадзян Беларусі, Азербайджана і Ірана, затрымалі сталічныя аператыўнікі. Арганізатара незаконнай дзейнасці — 40-гадовага грамадзяніна Азербайджана — затрымалі на рынку «Экспабел» у момант заключэння чарговай угоды па абмене даляраў на рублі. Паводле наяўнай у міліцыянтаў інфармацыі, з чэрвеня гэтага года азербайджанец атрымаў прыбытак звыш Br50 млн, а сумы некаторых угодаў даходзілі да $30–40 тыс.

• **Падчас навальніцы на дзіця абрынуўся прыпынак — хлопчык загінуў.** Паводле дадзеных МНС, ад навальніцы ліпеня 21 пацярпелі 72 населеных пункты ў Гомельскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях. У вёсцы Тарэбуты Старадарожскага раёна парывам ветру быў перакулены металічны навес прыпынка грамадскага транспарту. Смяротна траўмаваны хлопчык, 1999 г.н.

• **У Мінску 14-гадовыя жорстка забілі дваіх бамжоў.** Злачынства было здзейсненае на тэрыторыі закінутага дзіцячага садка на Партызанскім праспекце. Трое мінчан, двум па 14 гадоў, аднаму — 20, адпачывалі тут з алкаголем у жаночай кампаніі. У адным з памяшканняў садка жылі бадзягі — мужчына і жанчына. Моладзь пачала здзекавацца з іх. Да непрытомнасці збілі мужчыну, згвалцілі кабету, а потым абаіх забілі нажом. Моладзь пакінула месца злачынства, аднак праз некаторы час старэйшы з кампаніі сам патэлефанаваў у міліцыю і сказаў, што забіў чалавека. Усе падазраваныя затрыманыя.

• **Не ўдалося адшукаць забойцу касіра «Абсалютбанка».** Нягледзячы на відэазапісы, супрацоўнікі праваахоўных органаў не змаглі высветліць асобу чалавека, які падазраецца ва ўчыненні гэтага злачынства. Шэраг нападаў на пункты абмену валют адбываліся ў Мінску ў канцы 2009 года — пачатку 2010 года.

• **Віцяблянка заплаціла маскоўскаму ашуканцу 9 мільёнаў за «халяўную» «Аўдзі-А6».** Маладой жанчыне на мабільны тэлефон прыйшло паведамленне пра перамогу ў рэкламнай акцыі кампаніі «Welcom-Telecom». У якасці ўзнагароды ёй была абяцаная новенькая Аўдзі-А6. Па кантактным тэлефоне ёй пацвердзілі сказанае і прапанавалі азнаёміцца з умовамі акцыі на афіцыйным сайце кампаніі. Яна звязалася з нейкім Жэнем, указаным у якасці кантактнай асобы, і пацікавілася, як забраць прыз. Прыязны мужчына сказаў, што трэба толькі заплаціць 1% ад цаны аўтамабіля за афармленне дакументаў. Віцяблянка пераявяла на прыватнае імя ў Маскву 2,2 млн рублёў. Пасля прадстаўнік кампаніі прапанаваў забраць прыз наяўнымі і папрасіў яшчэ 1,5% цаны машыны ў якасці даплаты за банкаўскі перавод... Жанчына збірала грошы па знаёмых. Скончылася гісторыя знікненнем сайта ў інтэрнэце і абарванымі кантактамі. Ашуканцы вымантачылі ў жанчыны 9 млн рублёў.

**СМ**




## ФУТБОЛ

### БАТЭ — «Экранас»

2 ліпеня ў Барысаве на гарадскім стадыёне пройдзе другі матч 3-га кваліфікацыйнага раўнду Лігі чэмпіёнаў. Сустрэнуцца БАТЭ (Барысаў) і «Экранас» (Панявежыс). Пачатак а 19.00. Квіткі каштуюць 16 000 рублёў.

## КАНЦЭРТЫ

### Квартэт Андрэя Барылы

**27 ліпеня ў «Графіці»** (зав. Калініна, 16) — квартэт саксафаніста-віртуоза Андрэя Барылы. Пачатак а 19-й. Даведкі: (29) 638-44-44, (33) 638-44-44.

### «Гаротніца»

**29 ліпеня ў «Графіці»** (зав. Калініна, 16) — гурт «Гаротніца». Самі сябе музыкі называюць «дэструктыўным пажарным аркестрам з жаночым вакалам, элементамі ска, класікі, джазу і яскрава выражанай маргінальнай творчай пазіцыяй». Пачатак а 19-й.

### «Свет без мінаў і касетных бомбаў»

**29 ліпеня ў цэнтры Мінска** (Кастрычніцкая пл., 1). Пачатак а 19-й. Выступаюць: The Toobes, ZIGZAG (aka BLAGI MAT!!!), «Не прислоняться the band». Квіткі: 20 000 — 25 000. Даведкі: (29) 509-9-509, (29) 634-37-45.

### Blues Mobile

**30 ліпеня а 18-й у «Графіці»** (зав. Калініна, 16). Канцэрт гурта Blues Mobile.

## ІМПРЭЗЫ

### III Фестываль славы беларускай зброі «Грунвальд»

30-31 ліпеня. Дудуткі. Пачатак аб 11-й.

Тэл: 8(29) 303-86-46, 8(29) 303-81-07, 8(29) 602-52-50.

## ВЫСТАВЫ

### Кветкі, што пырхаюць

**Да 3 жніўня ў Музеі гісторыі горада Мінска** (Рэвалюцыйная, 10) пачала працу выстава матылькоў «Кветкі, што пырхаюць». На ёй дэманструюцца самыя прыгожыя і знакамітыя матылькі і экзатычныя насякомыя з усяго свету: з трапічных лясоў Паўднёва-Усходняй Азіі, Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыкі, Афрыкі, Аўстраліі і Акіяніі.

### Вялікія муміі Егіпта

**Да 12 жніўня ў Гістарычным музеі** (Маркса, 12) працуе пазнаваўча-забаўляльны праект «Вялікія муміі Егіпта», што ўключае аднайменную выставу і кароткаметражны гульнёвы фільм «Цар скарпіёнаў» у 3D-фармаце.

### Выстава Паліны Вітушчанкі

**Да 13 жніўня ў паб-клубе «Графіці»** (зав. Калініна, 16) працуе выстава «Nebulae» маладой мастачкі Пауліны Вітушчанкі з Літвы. Nebulae — астранамічны тэрмін, які азначае міжзоркавае воблака, з якога часам узнікае новая зорка.

### Лялькі і іх жыццё

**Да 15 верасня ў «Гасцёўні Уладзіслава Галубка»** (Старавіленская, 14) працуе праект «Лялькі». У праграме не толькі выстава, але і лялечныя спектаклі па матывах беларускіх народных казак.

### Знак вады

**Да 13 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** (Незалежнасці, 47) працуе выстава «Знак вады» — арт-праект мастака Васіля Касцючэнкі, які ўлучае шэраг жывапісных палотнаў пра ваду як асноўную субстанцыю жыцця.

### Жывапіс Ігара Карпава

**Да 19 жніўня ў Гістарычным музеі** працуе выстава карцін Ігара Карпава, мастака, што нарадзіўся ў Казані, вучыўся ў Санкт-Пецярбургу, а жыве ў Беларусі. Серыя карцінаў выставы была створаная ў 2003 —2004 гадах. У кампазіцыях мастака нараджаецца вобраз свету ў мінулым і будучым, у якім жыве чалавек з яго жарсцямі, духоўнымі ідэаламі і імкненнем да дасканаласці.

### «Італія, бацькаўшчына натхнення…»

Да 4 верасня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20) працуе выстава расійскага жывапісу са збору музея «Італія, бацькаўшчына натхнення…» У экспазіцыю выставы ўвайшлі творы Матвеева, Айвазоўскага, Рэймерса, Броннікава, Ге.




30—31 ліпеня ў музейным комплексе «Дудуткі» пройдзе фестываль, прысвечаны 601-й гадавіне Грунвальдскай бітвы. Можна будзе пабачыць рэканструкцыю славутай бітвы, рыцарскія турніры, бугурты — масавыя бітвы рыцараў, турнір лучнікаў, конкурс-паказ гістарычных касцюмаў.

Будзе таксама канцэртная праграма з удзелам гуртоў «Зніч», «Стары Ольса», сярэднявечны кірмаш, атракцыёны, агнявое шоу. Фестываль пачнецца 30 ліпеня аб 11-й. Для гасцей фестывалю будзе дзейнічаць намётавы лагер. Дабрацца на фестываль можна аўтобусам № 323 Мінск-Дудуткі (ідзе з аўтавакзала «Усходні», час адпраўлення з Мінска: 9.40; 12.55). У дні фестывалю будуць арганізаваныя дадатковыя рэйсы.

GPS каардынаты музейнага комплексу Дудуткі: 52.328625 N 27.119751

Даведкі па т.: (29) 303-86-46, (29) 303-81-07, (29) 602-52-50.



**Выстава адной карціны: Уладзімір Стальмашонак «Слова пра Беларусь»**

Да 7 жніўня ў Гістарычным музеі праходзіць выстава класічнага палатна Уладзіміра Стальмашонка. На карціне выяўленыя дзеячы нацыянальнай гісторыі і культуры: Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына, Сымон Будны, Пётр Мсціславец, Сімяон Полацкі, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Максім Багдановіч, Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны, Уладзіслаў Галубок.

Уладзімір Стальмашонак стварыў гэтую кампазіцыю амаль 40 гадоў таму, у 1972 годзе, і яна да гэтага часу застаецца класікай дзякуючы арганічнаму спалучэнню манументальнасці з глыбінёй і шматзначнасцю сэнсу.

Аўтар злучае ў карціне рысы розных відаў мастацтва — станковага палатна, манументальнай размалёўкі або шпалеры, плаката. Выкарыстоўвае гратэск, не трацячы пры гэтым партрэтнай дакладнасці.

## ТЭАТРЫ

**27 ліпеня**

Сучасны мастацкі — «Фігара.tut»

**28 ліпеня**

Сучасны мастацкі — «Фігара.tut»

**1 жніўня**

Сучасны мастацкі — «Фігара.tut»

**4 жніўня**

Сучасны мастацкі — «Кастынг»

## КІНО

### Пінгвіны для ўсёй сям'і

**Mr. Popper's Penguins**
ЗША, 2011, каляровы, 95 хв.
**Рэжысёр:** Марк С.Уотэрс
**Ролі выконваюць:** Джым Кэры, Карла Гуджына
**Жанр:** Сямейная кінакамедыя
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Містэр Попер — паспяховы бізнэсовец, здольны ўгаварыць чалавека набыць любую рэч. Але бацька-вандроўнік пакідае Поперу ў спадчыну жывых пінгвінаў, які ставяць усё яго жыццё дагары нагамі. У героя з'яўляецца магчымасць зразумець, што не ўсё прадаецца, і знайсці паразуменне з блізкімі.

Фільм Марка Уотэрса — пацешная кінакамедыя з Джымам Кэры ў галоўнай ролі. Як колішні агент Эйс Вентура, тут Кэры мае справу з «братамі меншымі». Для здымак некаторыя птушкі ўзятыя жыўцом, некаторыя апрацаваныя на камп'ютары. Гарэзы ў чорных камізэльках ладзяць патопы, б'юць посуд і лётаюць на дэльтаплане. Джым Кэры кампенсуе недахопы птушынае мімікі сваёй эксцэнтрыкай.

Дзеці героя — у захапленні. Гледачы таксама ў гуморы.

**Андрэй Расінскі**






**Традыцыйны фэст «Гліняны Звон»**

30 ліпеня. Івянец. Пачатак а 9-й раніцы. Традыцыйны фэст майстроў керамікі. Наведванне фэсту бясплатнае, у тым ліку для арганізаваных экскурсій. Сам музей у гэты дзень працаваць не будзе (за выняткам хіба керамічных майстэрняў), але ёсць магчымасць наведаць адчынены нанова прыватны музей народнага разьбяра А. Пупко (вул. Камсамольская, 87).

# Расійскі «Ё-мабіль» ствараюць беларусы



«Ё-Красовер».

**Бізнэсовец, канструктар, дызайнеры — усе яны знайшлі сябе за мяжой.**

Шматмільённы аўтамабільны праект усходніх суседзяў «Ё-мабіль» так ці інакш закране беларускі рынак. Агульная мытная прастора дазволіць прывозіць «Ё-мабілі» ў нашу краіну без усялякіх праблем. Але ж Беларусь хоча яшчэ і збіраць машыны ў сябе! Год да пачатку камерцыйнай вытворчасці — самы час, каб пазнаёміцца з «Ё-мабілем» бліжэй і знайсці яго беларускія карані.

### Электрастанцыя на колах

Што ж такое «Ё-мабіль»? Гэта гібрыдны аўтамабіль, які выкарыстоўвае бензін і газ для выдзялення энергіі. Таму «Ё-мабіль» можна назваць міні-электрастанцыяй. Энергія ў ім будзе назапашвацца і захоўвацца не ў акумулятарных батарэях (як звычайна), а ў суперкандэнсатарных элементах, якія ніколі раней не ўжываліся ў аўтавытворчасці. Дзякуючы гэтаму расход паліва складзе ўсяго 3,5 л/100 км.

Гісторыя аўтамабіля пачалася летась, калі яго стварэнне анансавалі расійская інвестыцыйная група АНЭКСІМ мільярдэра Міхаіла Прохарава і беларуска-расійская кампанія «Яравіт Мотарс» беларуса Андрэя Бірукова. Яны і стварылі ААТ «Гарадскі аўтамабіль», пазней перайменаваны ў «Ё-Аўто».



Андрэй Бірукоў і ягоная «Яравіт Мотарс» працуюць на Прохарава.

### Беларуская назва...

Вось тут самы час пачаць гаворку пра беларускую сутнасць праекта. Па-першае, назву для «Ё-мабіля» прыдумаў беларускі дызайнер Уладзімір Цэслер. Яму ўдалося пераканаць Прохарава, што літара «Ё» з'яўляецца ўнікальнай. Па-другое, менавіта Цэслер прапанаваў двухколерную афарбоўку аўтамабіляў, абраўшы адным з колераў «сланову косць».

### ...і беларускія стваральнікі

Хто ж такі Андрэй Бірукоў? Генеральны дырэктар «Ё-Аўто», які ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва праектам, вырас і пачынаў свой бізнэс у Беларусі. Пераехаўшы ў суседнюю Расію, ён захапіў з сабой і групу аднадумцаў — беларускіх інжынераў, якія не знайшлі для сябе належнай працы ў нашай краіне. Сярод іх фактычны стваральнік — галоўны канструктар новага аўтамабіля Андрэй Гінзбург — і шэф-дызайнер праекта Андрэй Трафімчук. Праўда, і першы, і другі не здабылі і адсотка ад той славы, якая дасталася спонсару праекта Міхаілу Прохараву. Можа, засталіся б яны на радзіме, дык у Беларусі ствараўся б праект «Ў-мабіль»...

### Тэрмін гатоўнасці — год

У канцы 2012 года ў продажы павінны з'явіцца тры мадэлі «Ё-мабіля». Гэта мікравэн, красовер і фургон. Максімальная хуткасць усіх машын — 120 км/г.

Першы завод па выпуску аўтамабіляў будзе пабудаваны пад Пецярбургам у індустрыйным парку «Мар'іна». Там змогуць рабіць 45 тысяч машын штогод, але гэтага будзе відавочна недастаткова. Запушчаны ў маі сайт, на якім можна было пакінуць заяўку на аўтамабіль, проста ламіўся ад папулярнасці. У першы ж дзень такое жаданне выказалі 50 тысяч чалавек — больш чым гадавы аб'ём выпуску! За тыдзень колькасць ахвотных дарасла да 100 тысяч.

У сувязі з такой папулярнасцю праекту Беларусь выказала жаданне адкрыць у сябе паралельны выпуск аўтамабіля. Беларускі дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіях накіраваў у Расію прапанову стварыць беларускае аддзяленне па выпуску ё-мабіляў. Адказу ад Прохарава пакуль не было.

### Вядро дзёгцю

Сярод акіяну расійскага аптымізму гучаць і галасы скептыкаў. Фантастычны праект не бачыцца ім рэальна ажыццяўляльным. І падставы для крытыкі ёсць. Адсутнасць досведу ў распрацоўшчыкаў, дзіўныя канструктарскія рашэнні, якія не дазваляюць пралічыць бяспеку кіроўцы падчас аварыі, рызыка кароткага замыкання «электрастанцыі на колах» прымушаюць задумацца, чаго ў праекце больш — сапраўднай працы ці піяру велічы расійскага аўтарынку. Адказы на пастаўленыя пытанні будуць дадзеныя ў 2012-м, калі першыя энтузіясты заплацяць $12--15 тысяч і сядуць за стырно беларускай ідэі, выкананай за расійскія грошы.

**Ягор Марціновіч**

Фірмовы знак, распрацаваны Цэслерам.

**У ЗША складзены рэйтынг самых якасных аўтамабіляў**

Было апытана 37069 амерыканцаў, якія з верасня па снежань 2010 года набылі новыя аўтамабілі. Найвышэйшыя ў сваіх катэгорыях адзнакі атрымалі: Honda Civic Hybrid (агульны паказчык якасці — 881 бал), Volkswagen Golf (871), Volkswagen Jetta Sedan (876), Hyundai Sonata (876), Honda Accord Crosstour (889), Nissan Maxima (888), Mercedes-Benz C-Class (903), Jaguar XJ (929), Dodge Challenger (901), купэ Ford Mustang (899), купэ BMW 1-Series (917), кабрыялет Ford Mustang (905), кабрыялет Mercedes-Benz E-Class (919), Honda Odyssey (860), Volkswagen Tiguan (880), Ford Flex (886), Jeep Grand Cherokee (877), Toyota Sequoia (916), Land Rover Discovery (923), BMW X6 (909), Honda Ridgeline (864), Ford F-150 (906), Ford F-250/350 (885).

ТЭХНАЛОГІІ

## Плаці праз тэлевізар

Ад 14 ліпеня «Белінвестбанк» сумесна з інтэрактыўным тэлебачаннем ZALA (РУП «Белтэлекам») прадстаўляе новы сэрвіс — ТБ-банкінг. Усім трымальнікам картак банка даступная функцыя плацяжоў «праз тэлевізар». Кліент атрымлівае свабодны доступ да сваіх плацяжоў і можа ажыццяўляць розныя аперацыі з дапамогай тэлевізара і пульта дыстанцыйнага кіравання.

Паслуга рэалізуецца наступным чынам: у інтэрфэйсе ZALA кліент выбірае закладку «Плацяжы» і, перамяшчаючыся па меню, ажыццяўляе іх. З дапамогай ТБ-банкінгу магчымыя ўсе безнаяўныя плацяжы, даступныя ў інфакіёску або банкамаце. Таксама можна паглядзець баланс рахунку і міні-выпіску па картцы. Ніякай платы з кліента за выкарыстанне гэтай паслугі банк не спаганяе.

**ЯВ**

АДПАЧЫНАК

## Застацца ў жывых... у беларускай вёсцы

Экстрэмальны адпачынак у закінутых вёсках пачалі практыкаваць у Лепельскім раёне. Сутнасць праекту з пастаральнай назвай «Домік ў вёсцы» поўная рамантыкі раманаў Даніэля Дэфо і Фенімора Купера.

Пяць маладых сем'яў закідаюць у глухую лепельскую вёску. Узяць з сабой Рабінзоны могуць толькі прадметы асабістай гігіены, аднаразовы посуд і рэчы, неабходныя для выканання заданняў.

Балы, атрыманыя ў конкурсах, выплачваюцца «антонаўкамі» і «ранеткамі» - мясцовай валютай. Толькі за гэтыя грошы ўдзельнікі могуць набыць прадукты ў аўталаўцы.

Першая група Рабінзонаў правярала свае сілы 22--24 ліпеня. На працягу трох дзён яны выканалі 10 заданняў. Сярод іх — экстрэмальныя: напрыклад, злавіць у вялікім загоне гусака, забіць і прыгатаваць з яго абед...

У вольны ад конкурсаў час удзельнікам трэба «акультурыць» і максімальна аднавіць напаўразбураную хату, у якой яны будуць жыць. Заадно і вёску трохі спарадкуюць.

**СМ, паводле БелТА**



## Беларусам нешта не спіцца

Да бяссонніцы могуць прывесці розныя прычыны — ад няшчаснага кахання і праблем на працы да інфекцый. Пры гэтым чалавекператамляецца і знясільваецца.

Доктар-неўролаг Сяргей Каламіец рэкамендуе для паляпшэння якасці сну перш за ўсё класціся спаць заўсёды ў адзін і той жа час, пажадана ціхім і цёмным пакоі пакоі. Перад сном пакой трэба праветрыць, аптымальная тэмпература для сну — 13 —24 градусы.

Перад сном рэкамендуецца крыху перакусіць. Спаць варта на цвёрдым матрацы вышынёй 8 —10 см. Пажадана, каб ён быў выраблены з натуральных матэрыялаў, якія дазваляюць падтрымліваць адну і тую ж тэмпературу і вільготнасць пры кантакце са скурай. Падушка не павінна быць высокай, галава спячага павінна знаходзіцца на адной плоскасці з целам. Сон на высокай падушцы на працягу некалькіх гадоў можа прывесці да з'яўлення розных неўралагічных расстройстваў, у тым ліку да парушэння мазгавога кровазвароту, а таксама да шыйнага астэахандрозу, галаўных боляў. Найбольш фізіялагічная поза для сну — на баку.

**БелаПАН**




**У Празе прайшоў штогадовы міжнародны конкурс харaства сярод глухіх дзяўчат Miss Deaf World 2011. Беларуска Наталля Рабава атрымала тытул «Міс Еўропа». Наталля — яшчэ школьніца. Яна займалася ў Цэнтры моладзевай моды БДУ пад кіраўніцтвам Сашы Варламава.**



GAZETABY.COM

**Экс-кандыдат у прэзіэнты-2010 Яраслаў Раманчук выканаў перадвыбарчае абяцанне. Ён і яго сяброўка Алеся ўзялі шлюб у Чырвоным касцёле ў суботу. У вясельнае падарожжа Раманчукі збіраюцца ці ў Грэцыю, ці ў Іспанію.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**МНС часоў БНР — у Мінску выходнымі прайшоў парад пажарных з паказам рэтра-тэхнікі.**



**Не пашэнціла: беларускі скакун у ваду Вадзім Каптур разбіў галаву падчас скачка з 10-метровага трампліна на трэніроўцы чэмпіянату свету па плаванні.**

## Анекдоты

* * *

У Мінску з'явілася новая платная паслуга: «Здаю на час лаўку ў цяністым месцы, плата дамоўная».

* * *

«Адзвінелі мячы, адгрымелі шчыты...» — я думаў, гэта пра баскетбол. Выявілася — пра Грунвальд.

* * *

Каб раніцай своечасова ўставаць, ставіць будзільнік трэба не на гадзіну раней, а на шафу.

* * *

Пасля звароту бацькі да сына «Саша, саступі месца!» натоўп у метро быў прызнаны несанкцыянаванай акцыяй пратэсту і разагнаны людзьмі ў цывільным.

* * *

Добры дзень, я б хацеў узяць адпачынак за свой кошт. Ад серады. Сутак на 10—15, як атрымаецца.

* * *

Каб не дапусціць новых правакацый у эфіры, услед за забаронай слова «ШОС» на тэле- і радыёканалах загадана забараніць да ўжывання і падобныя словы — «шосты», «шост» і вытворныя. А потым, на ўсялякі пажарны, было вырашана прыбраць з беларускага алфавіту літары Ш, О ды С.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Радашковічы.** Прыехаў нікому не знаны жыд, багата і фанабэрыста адзеты. Стаў цягацца гэты злыдзень па хатах, дзе збіралася моладзь, і пачаў нагаворваць маладзенькіх дзяўчат на службу ў Вільню, нібыта да магазіна шыцця сваёй жонкі. Тутэйшыя жыдкі-хлопцы скора разнюхалі, што гэты багатыр-франт — гандляр жывым таварам. Выклікалі яны яго за цэркаў, быццам для нейкіх угавораў і... усыпалі-ўсыпалі, колькі ўлезла.

**«НН». №28. 1911.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі перабраўся з Вільні ў ЗША.** Гэта адбылося два тыдні таму. Ягоныя сыны і жонка атрымалі «зялёную картку» яшчэ раней, але інфармацыя пра гэта не разгалошвалася. Размясціўся фармальны кіраўнік нашай заканадаўчай улады ў Кліўлендзе — даўнім цэнтры беларускай дыяспары ў Амерыцы.

**«НН». № 29. 2011.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
**Наклад 7334.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 26.07.2011.
Замова № 3540.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12